


БЕЛАРУСКАЯ МАЛАДЗЁЖНАЯ ГАЗЕТА

# ЧЫРВОНАЯ Змена

ВЫДАЕЦЦА З 1921 ГОДА

ВЫХОДЗІЦЬ ПА ПЯТНІЦАХ

№ 18 (13550)

27 красавіка — 3 мая 1992 года

Цана 2 рублі.


## САЦЫЯЛІЗМ? КАПІТАЛІЗМ? ПРАЦА!

Вось і надышоў Першамай. Камусьці святы ў наш час нагадваюць "пир во время чумы". Хтосьці, як і раней, сапраўды святкуе – весела, бесклапотна... Перад вамі – людзі, працоўныя, "гаспадары свайго лёсу". Дык для каго з іх свята стане сапраўды святам? Не ведаю. Толькі адно заклікае падумаць. Вось мы імкнёмся да рынку, да капіталізму і не звяртаем увагі на тое, што капіталізм – не вырай, куды ад зімовай сцюжы імкнуцца птушкі. Першамай – свята працы, а працаваць, як пры сацыялізме, у капіталістычным грамадстве ніхто не дазволіць. Каму не дазволіць? Кожны сам сабе. Знішчэнне інстытутаў сацыяльнай падтрымкі, сістэмы, пры якой чалавека "дацягвалі" да сярэдняга ўзроўню жыцця, можа быць і паспрыяе развіццю працаздольнасці, імкненню выйсці на наступную, больш высокую прыступку прафесіяналізму.

Чалавецтва заўсёды паважала прафесіяналаў. Падвядзенне ўсіх пад агульны назоў "працоўныя" – атавізм мінулага. Толькі імкненне да поспеху, да павышэння тэхналагічнага ўзроўню будзе залогам нармальнага чалавечага існавання. На жаль, большасць выхаванцаў сацыялізму не разумее, што пры цяперашніх мізэрных працоўных затратах мы не толькі не пабудуем капіталізм, але нават не вернемся да феадалізму.

Безумоўна, людзі, нягледзячы ні на што, будуць святкаваць. Сядуць за святочны стол і тыя, каго вы бачыце на гэтых здымках. За што ж узнімуць яны келіх? За капіталізм – светлую будучыню чалавецтва? За сацыялізм – эпоху "нічога-не-раблення"? А можа проста – за жыццё, за здароўе блізкіх, за шчасце?

ALFA

# ЯКІМ СУДОМ СУДЗІЦЬ...

У кнізе Святланы Алексіевіч, якую наша газета друкуе на працягу апошніх тыдняў, незвычайна тонка падмечана асаблівасць светапогляду пакалення рэвалюцыянераў. Калі мы зараз сцвярджаем, уяўляем, так бы казаць, сваім крэда выраз "Каму гэта патрэбна?", дык нашы дзяды на гэтае пытанне адказвалі адназначна: "Гэта трэба будучым, тым, хто прыйдзе пасля нас".

Можа скласціся ўражанне, быццам тыя, хто жыў пад час рэвалюцыі, не мелі ніякай ідэалогіі, акрамя ідэалогіі роўназабяспечанасці. Тут жа варта прыгадаць вядомую показку. Унучка дзекабрыста сядзіць у сваёй кватэры на Неўскім праспекце і чуе на вуліцах стрэлы. Пасылае служанку даведацца, што там такое. Тая прыходзіць і адказвае: "Рэвалюцыя, спадарыня!". "Ой, як цудоўна! Мой жа дзед таксама за рэвалюцыю змагаўся! А чаго яны хочуць?". "А яны хочуць, каб багатых не было!". "Гэта ўжо дрэнна, мой дзед змагаўся, каб бедных не было...".

Кажуць, брат брата забіў за тое, што той расказваў старыя показкі. Але ў 17-м годзе браты забівалі адзін аднаго далёка не за тое. Адзін з тых, чые думкі паспела запісаць Святлана Алексіевіч, сцвярджае: гэта не падуладарна логіцы. Нас трэба судзіць рэлігійным судом... Рэлігія ж не судзіць, не асуджае. Яна павінна папярэджваці Інквізіцыя, напрыклад, не была ўласціва хрысціянству як вучэнню. Людзей палілі на вогнішчах людзі, тыя, хто ўзяў на сябе функцыі Бога, функцыі вышэйшага суддзі. Тое ж самае адбывалася і ў нас. Гэты феномен – феномен апраўдання крыві – усё часцей і часцей прымушае мяне, наогул людзей майго пакалення звяртацца да тых жудасных, нелагічных, крывавых гадоў. Мы шукаем параўнанні, шукаем памылкі... Ці маем мы права гэта рабіць? Старэйшыя папракаюць нас: хіба жылі вы тады, калі ІДЭЯ прымушала людзей лічыць сваіх братоў, бацькоў, суседзяў, ды і саміх сябе чалавечым матэрыялам, растворам для пабудовы новага грамадства? Так, у тыя гады мы не жылі. Ды і не дай Бог. Становішча, якое прымушала людзей парушаць самае ва ўсе часы святое – родасныя сувязі – не можа назвацца інакш, чым Апакаліпсісам. Нас папярэджвалі, нас вучылі, за нас аддавалі жыццё сапраўдныя настаўнікі, настаўнікі, якія ледзьве не на каленях заклікалі чалавецтва жыць, людзей – не пазбаўляць жыцця блізкага... Хіба можна рэкамі крыві змыць сучаснасць? Хіба можна забіваць дзеля адной мэты: апрануць беднага, накарміць галоднага? Няўжо са скуры забітых можна сшыць паліто? Хіба мясам – накорміш, крывёю – напоіш галоднага? Даруйце мне гэтыя жахі, але абажуры з чалавечай скуры лічацца перш за ўсё атрыбутам фашызму...

На жаль, гісторыя амаль што не ведае прыкладаў змены сацыяльных фармацый, якія адбываліся без праліцця крыві. Нават капіталізм заваёўваў сабе месца, ідучы па трупах. Феадальная цемра вынішчала, паліла на вогнішчы тых, хто мусіў адмовіцца ад ранейшай саслоўнай сістэмы, хто вырашыў для сябе адно: чалавек нараджаецца роўным іншаму чалавеку. Так, гэта ж асноўны пастулат капіталізму – роўнасць магчымасцей пры нараджэнні, адэкватныя намаганням асобы ўмовы для развіцця... Толькі ж для гэтага "капіталісты" не шкадуюць сіл, часу, розуму, і яшчэ невядома, у якой сістэмы ўзровень духоўнасці вышэйшы. Прагматызм не перашкаджае духоўнасці. Яна ствараецца ў барацьбе, толькі наша духоўнасць нараджалася ў барацьбе *СУПРАЦЬ*, "іхняя" – у барацьбе *ЗА*...

Дык што ж суд? Судзіць продкаў? Не, выпраўляць іх памылкі.

Алесь Палынскі.

Няма **Аляксандра Антонавіча МАРКЕВІЧА**, надзейнага сябра, чулага і ўважлівага таварыша, разумнага і назіральнага журналіста. Ён памёр нечакана, у злічаныя хвіліны, як памірае большасць людзей яго пакалення. У памятным сорак першым васемнаццацігадовым юнаком уступіў ён у барацьбу з нямецкім фашызмам і да самай вясны сорак пятага знаходзіўся ў бесперапынных баях.

Заставалася некалькі тыдняў да Перамогі, калі ў адзін з дзён перад артылерыйскай батарэяй, дзе служыў сяржант Аляксандр Маркевіч, нечакана з'явілася вялікая група варожых танкаў з дэсантам пяхоты, спрабаваўшых прарваць кола акружэння. Бой быў цяжкі, праціўнік панёс вялікія страты, але сілы былі няроўныя. Вось ужо поўнасцю выйшаў са строю баявы разлік гарматы, якой камандаваў малады сяржант. Застаўшыся адзін, ён меткім агнём знішчыў два нямецкія танкі — і вораг адступіў. Гэты апошні подзвіг каштаваў яму цяжкага ранення, ампутацыі нагі.

Пасля доўгага лячэння і вучобы ў ВНУ — актыўная праца ў беларускай маладзёжнай прэсе. Ветэраны газеты "Знамя юности" памятаюць яго як намесніка галоўнага рэдактара, а "Чырвонай змены" — як галоўнага рэдактара. Больш як 26 гадоў Аляксандр Антонавіч узначальваў Галоўліт рэспублікі, дзе таксама здабыў глыбокую павагу і супрацоўнікаў, і журналістаў.

Выказваючы глыбокія спачуванні сям'і нябожчыка, мы падзяляем з ёю ўсю горыч страты. Аляксандр Антонавіч назаўсёды застанецца ў нашай памяці.

Група таварышаў.

*Актуальнае інтэрв'ю*

# Пад знакам "STOP"

усё часцей аказваецца кааператыўны аўтатранспарт.

*Аб прычынах і выніках гэтага разважае начальнік ДАІ Маскоўскага РАУС г.Мінска маёр міліцыі Алег Мікалаевіч Слесарэнка.*

– Алег Мікалаевіч, апошнім часам рэзка павялічылася колькасць дарожна-транспартных здарэнняў, у тым ліку і ў вашым раёне – адным з самых буйных у сталіцы. Чым, на Вашу думку, гэта выклікана?

— У першую чаргу, сённяшнімі цяжкасцямі, агульным крызісам ва ўсіх сферах жыцця. Людзі страцілі спакой, упэўненасць у заўтрашнім дні, і, як вынік, унутраную дысцыпліну. Перасталі клапаціцца пра дысцыпліну і кіраўнікі арганізацый і прадпрыемстваў: усе цяпер думаюць пра тое, як зарабіць больш грошай. Ніводная пастанова ўрада, ніводнае рашэнне органаў унутраных спраў аб папярэджванні правапарушэнняў на аўтатранспарце не выконваюцца, у тым ліку пастанова Савета Міністраў № 140 ад 1988 года, якая прадугледжвае стварэнне ў працоўных калектывах камісій па бяспецы дарожнага руху. Інфармацыя службаў ДАІ аб прафілактычных мерапрыемствах, найбольш тыповых парушэннях часцей за ўсё ідзе ў смецце. Напрыклад, нягледзячы на шматлікія абяцанні кіраўнікоў гэтых прадпрыемстваў, работа ў гэтым накірунку не вядзецца на заводзе "Калібр", фабрыцы імя Куйбышава, вытворчым аб'яднанні "Прамень". Але нават і на тых прадпрыемствах, дзе такія камісіі створаны, гэта зроблена толькі дзеля "галачкі".

– Апошнім часам да дзяржаўных прадпрыемстваў дадаліся шматлікія кааператывы, таварыствы, малыя прадпрыемствы. І кожнае хоча мець свой аўтатранспарт...

— Як правіла, транспарт яны набываюць па астаткаваму кошту, тэхнічна няспраўны, не маючы пры гэтым сваёй рамонтнай базы. Адсутнічае кантроль за выездам машын, на работу ў якасці шафёра прымаюцца асобы, пазбаўленыя пасведчанняў вадзіцеляў, тыя, хто не прайшоў медыцынскі агляд. У выніку ўсё часцей адбываюцца дарожныя здарэнні з цяжкімі вынікамі. Так, 28 красавіка каля 21 гадзіны шафёр кааператыва "Інтэкс" А.Аксёнаў у стане алкагольнага ап'янення выехаў на праспект Машэрава на паласу сустрэчнага руху і сутыкнуўся з аўтамашынай "Жыгулі", 25-гадовы вадзіцель якой загінуў ад атрыманых траўм на месцы.

Ды й увогуле, які можа быць кантроль у такіх прадпрыемствах і арганізацыях, калі парушальнікамі дарожнага руху аказваюцца самі кіраўнікі. Напрыклад, 29 красавіка дырэктар МП "Ювенал" Д.Гарэлаў раз'язджаў на ўласным аўтамабілі ў нецвярозым стане. А дырэктар МП "Файна" У.Сілкін у гэты ж дзень кіраваў сваім аўтамабілем, не маючы пасведчання вадзіцеля. Прычым супрацоўнікі ДАІ затрымліваюць яго за гэта ўжо не першы раз.

Прыкладаў такіх вельмі шмат. Можна сказаць, што амаль усе кааператыўныя ўстановы, зарэгістраваныя ў нашым раёне, дапускаюць парушэнні. Да таго ж часта іх кіраўнікі набываюць транспарт з дапамогай махінацый і сяброўскіх сувязей. Так, напрыклад, вытворчае аб'яднанне "Мінскводаканал" прадало малому прадпрыемству "Ватэрпас" аўтамашыну УАЗ-452 усяго за 656 рублёў, прычым нават не зняло яе з уліку ў ДАІ. А сталічны трэст "Гардармеханізацыя" дазволіў малому прадпрыемству "Атронт" захоўваць у сябе на тэрыторыі аўтамашыну ЗІЛ-130 (дзяржаўны нумар 52-95 МІЦ), вадзіцель якой 25 красавіка без дазволу ўзяў яе з ахоўваемай тэрыторыі. Невядома, якім чынам за рулём аказаўся навучэнец Цэнтральнага аўтавучэбнага камбіната М.Верыч, які быў затрыманы супрацоўнікамі Маскоўскага РАУС у стане алкагольнага ап'янення. Сам жа вадзіцель пры затрыманні ўцёк. Мясцовыя ўлады, якія выдаюць дазвол кааператыўным арганізацыям на адкрыццё ўласных аўтагаспадарак, нават не цікавяцца наяўнасцю стаянак, рамонтных баз і гэтак далей. Большасць кааператыўнага аўтатранспарту захоўваецца месяцамі ў зялёнай зоне ці на дзіцячых пляцоўках ля жылых дамоў. Толькі за тры месяцы бягучага года супрацоўнікамі ДАІ Маскоўскага раёна было выяўлена каля 100 такіх выпадкаў.

На маю думку, вырашыць усе гэтыя праблемы сёння можна толькі адным шляхам — прыняццем закона аб прыцягненні да адказнасці не вадзіцеляў, а кіраўнікоў арганізацый і ўстаноў, у бескантрольным падпарадкаванні якіх знаходзіцца аўтатранспарт.

Запісаў П.Сіманаў.

*Дабрачыннасць*

# Мецэнаты і спонсары, яднайцеся!

Рынак, старанна будуемы ў нашай краіне, — рэч жорсткая. Асабліва для людзей творчых. Наша незалежная, але, на жаль, і небагатая дзяржава не можа ў поўнай меры забяспечыць матэрыяльную падтрымку ўстаноў і дзеячаў культуры, фундаментальных навук. У такіх умовах проста неабходна падтрымка з боку дзяржаўных і самастойных вытворчых аб'яднанняў, фірмаў, прадпрыемстваў, а таксама прыватных асоб. Прыклады спонсарства, мецэнацтва ў нашай рэспубліцы ёсць, але гэта пакуль што стыхійны, несістэматычны працэс. Карэнным чынам змяніць такое становішча надумалі некалькі дзеячаў культуры, якія ўвайшлі ў ініцыятыўную групу па стварэнню "Асацыяцыі мецэнатаў і спонсараў РБ". 25 красавіка ў Доме літаратара адбылося яе пасяджэнне.

Мэта будучай асацыяцыі — аб'яднаць дзелавых людзей, дзяржаўныя і самастойныя вытворчыя калектывы, неабыякавыя да стану культуры ў нашай рэспубліцы. У адрозненне ад існуючых падобных арганізацый члены асацыяцыі змогуць не проста пералічыць грошы ў нейкі фонд, але самі выбраць форму, памер і аб'ект дапамогі. Асацыяцыя не мае намеру атрымліваць працэнт за свае "паслугі", у аснове — толькі дабрачыннасць. Мяркуецца стварыць банк даных, дзе будуць збірацца звесткі пра спонсараў, мецэнатаў, праводзімыя мерапрыемствы, а таксама пра тыя творчыя калектывы ці асобы, якім патрабуецца дапамога.

Правядзенне Устаноўчага з'езда плануецца на чэрвень 1992 года.

**Атрымаць больш падрабязную інфармацыю можна ў члена ініцыятыўнай групы спадара Мікалая Мікалаевіча Трафімчука па тэлефоне 60-76-17.**

А.Воліч.

*Рэпартаж у нумар*

# СКАНДАЛЬНЫ З'ЕЗД

У суботу, 25 красавіка, напярэдадні свята Уваскрэсення Хрыстова, Хрысціянска-дэмакратычны саюз на чале з Міхаілам Вашкевічам у адным з будынкаў Траецкага прадмесця правёў мерапрыемства пад гучнай назвай "ІІ з'езд". Яго галоўнай мэтай, паводле слоў кіраўніка, было падвядзенне вынікаў дзейнасці за год.

Пачаўся з'езд з малітвы. Гучалі ў ёй прыгожыя словы аб благаславенні Боскім, аб любові, аб дабрыні.

А потым пачалося тое, што, на маю думку, можна назваць кампраметацыяй хрысціянства, і ў прыватнасці, хрысціянска-дэмакратычнага руху на Беларусі.

Многія прыйшлі сюды па аб'яве, што запрашала ўсіх сумленных людзей адгукнуцца. Аднак акрамя разгубленасці і сораму за тое, што адбываецца, яны, бадай, не адчулі.

Вось урывак з прамовы прадстаўніка царквы ХВЕ А.Чарніцкага: "Лідэр павінен валодаць сапраўды хрысціянскімі якасцямі, каб павесці людзей за сабою, бо спадзяёмся не толькі на людзей, але – галоўнае – на сілу Боскую. Калі ля вытокаў будзе "паўхрысціянін", чалавек, які не адпавядае імені Хрыста, то гэта скампраметуе хрысціян... Лідэр павінен валодаць высокай духоўнасцю. Вашкевіч не з'яўляецца членам ніводнай царквы...".

Чарніцкі знаёмы з Вашкевічам з 1984 года. Ён паведаміў, што спачатку Міхаіл Іосіфавіч быў супрацоўнікам КДБ, потым стаў веруючым. Два разы сядзеў у турме, а калі вярнуўся, то спрабаваў стварыць прававыя арганізацыі: "Камітэт па сацыяльнай абароне", "Свабодныя прафсаюзы", наладзіць кантакты з ХДС Расіі. І адусюль, паводле слоў А.Чарніцкага, Вашкевіч быў выгнаны за парушэнне статуту. У канцы прамоўца дадаў: "Усе дзеянні Вашкевіча – дзеянні кампраметацыі хрысціянскай дэмакратыі".

Потым словы "кампраметацыя", "абсурд", "фікцыя" гучалі не адзін раз. Ды і як жа яшчэ зразумець тое, што адбылося? Як зразумець, што на хрысціянска-дэмакратычны з'езд былі запрошаны... крышнаіты, якія пад музыку і спевы частавалі прысутных нейкімі стравамі?

**Як зразумець прапанову Вашкевіча вынесці на абмеркаванне пункт аб фарміраванні, а потым стварэнні "Часовага Пераходнага Урада Беларускай Народнай Рэспублікі"?**

**Напрыканцы мерапрыемства нехта прапанаваў М.Вашкевічу пакаяцца, бо гэта адзінае, што можа яго выратаваць...**

Рыгор Валненка.

*Падзеі*

# Нарада архівістаў

Той, хто не вывучае гісторыі, паўтарае памылкі мінулага. З гэтым пагодзяцца ўсе. Як і з тым, што сур'ёзны гістарычны дослед немагчымы без працы са сведкамі "старых часоў" — дакументамі. І ніхто не стане, вядома, аспрэчваць неабходнасць дзяржаўнай архіўнай службы. Так, у сувязі з абвяшчэннем незалежнасці Беларусі паўстала праблема стварэння нацыянальнага архіва. Дакументы, што датычаць нашай гісторыі, воляю лёсу апынуліся ў самых розных краінах свету. Зразумела, шмат іх і ў рэспубліках былога СССР. Праблемам вяртання гістарычнай спадчыны і ўзаемадзеяння архівістаў была прысвечана Нарада кіраўнікоў архіўных службаў краін СНД, што прайшла ў Мінску 22—23 красавіка. У ёй прымалі ўдзел прадстаўнікі ўсіх рэспублік былога Саюза, акрамя Азербайджана. Ініцыятарам і арганізатарам правядзення нарады выступіла галоўнае архіўнае ўпраўленне РБ і Беларускае таварыства архівістаў.

Былі вырашаны практычныя пытанні ўзаемадзеяння і канкрэтны механізм перадачы дакументаў. Супрацоўніцтва будзе ажыццяўляцца на двухбаковай аснове з улікам міжнародных прававых норм, існуючай практыкі і нацыянальных заканадаўстваў. Беларусь падпісала з Літвой, Расіяй, Украінай і Латвіяй пагадненні, якія прадугледжваюць свабодны допуск даследчыкаў да архіўных фондаў, карыстанне ўсім навукова-даведачным апаратам, а таксама магчымасць абмену копіямі дакументаў на парытэтных пачатках. Намеснік начальніка Беларускага галоўнага архіўнага ўпраўлення Савіцкі Э.М. заўважыў, што ўмовы працы беларускіх даследчыкаў у гэтых дзяржавах не пагоршацца. У цэлым удзельнікі нарады ацэньваюць яе вынікі як станоўчыя, але засталіся і нявырашаныя пытанні. Адно з іх — гэта лёс галіновых архіваў. Напрыклад, архіва Міністэрства замежных спраў былога СССР, Гідраметцэнтра, навукова-тэхнічныя архівы, якіх толькі ў Маскве — 18, і інш. Удзельнікі нарады аказаліся не гатовымі да пастаноўкі гэтай праблемы, было вырашана, што падобныя пытанні павінны абмяркоўвацца асобна. Таксама было прынята рашэнне хадайнічаць аб стварэнні міжурадавай камісіі для вырашэння спрэчных пытанняў, напрыклад, калі на права валодання нейкім дакументам прэтэндуе адразу некалькі дзяржаў. Такія выпадкі нярэдкія, бо на працягу стагоддзяў лёс нашай рэспублікі быў цесна звязаны з лёсам краін-суседзяў. Так, на Літоўскую метрыку, якая зараз захоўваецца ў Маскве, заяўляюць правы адразу пяць краін: Беларусь, Польшча, Літва, Расія і Украіна. І гэта не адзіны прыклад. Але пакрысе складанасці пераадольваюцца, і зараз Беларускае архіўнае ўпраўленне разам з Інстытутам гісторыі АН набылі копію той жа Літоўскай метрыкі.

Але ідэя стварэння нацыянальнага архіва сустракае пэўныя цяжкасці не толькі "звонку", але і "ўнутры" рэспублікі. Галоўная праблема — гэта недахоп сродкаў. Вядома, эканамічнае становішча рэспублікі зараз вельмі цяжкае, але выклікае здзіўленне той факт, што прыбыткі архіваў ад аказання платных паслуг абкладаюцца падаткам аднолькава як і вытворчыя прадпрыемствы. Яшчэ адна перашкода — недахоп памяшканняў. Вось і калі пачаў вырашацца лёс былога партыйнага архіва, узніклі пэўныя складанасці. Міністэрства культуры прад'явіла правы на частку памяшканняў, так што, паводле падлікаў спецыялістаў, тых плошчаў, што засталіся, наўрад ці хапіла б нават пад склад. Ёсць і праблема падрыхтоўкі нацыянальных кадраў. Калі раней існаваў "нацыянальны набор" у Маскоўскі гісторыка-архіўны інстытут, то зараз падрыхтоўка спецыялістаў будзе праходзіць на базе БДУ. Але працэс стварэння нацыянальнага архіва распачаты, пытанні ўзнятыя. Будзем спадзявацца, што, нягледзячы на цяжкасці і перашкоды, незалежная Рэспубліка Беларусь, у рэшце рэшт, будзе мець свой нацыянальны архіў.

В.Акуліч.

«ПАС» падрыхтавала
Алена АГІБАЛАВА,
рэдактар аддзела па пытаннях палітыкі,
тэл. 39-87-94.

# "ЧЫРВОНЫ ЖОНД" СЁННЯ...

## ІНТЭРВ'Ю З КАНЦЛЕРАМ АЛЕСЕМ ШАВЕЛЕМ

**Дык як жа расшыфраваць нам слова "Чырвоны"?**

— Самае цікавае, што і ў XIX ст. "Чырвоныя" Каліноўскага не мелі аніякага дачынення да ідэі сацыялізму альбо камунізму. У адной з "Мужыцкіх праўд" Каліноўскі пісаў, што жадае адбудаваць грамадскі лад жыцця на тэрыторыі былога Вялікага княства Літоўскага, па ангельскаму ды французскаму ўзору. Чырвонае ж тады, у нашай краіне, асацыіравалася з рэвалюцыйным шляхам барацьбы.

**– Ці не значыць гэта тое, што вы пераймаеце рэвалюцыйны шлях пабудовы грамадства?**

— Што датычыць грамадства, то ні ў якім разе — толькі эвалюцыйны шлях. Але не запамятвайце, што вайна 1863г. была не грамадзянскай вайной, а вайной перш-найперш за нацыянальную незалежнасць, вайной супраць каланізатараў. Я мала ведаю гістарычных прыкладаў, калі народ атрымліваў незалежнасць мірным шляхам, гэта можна назіраць толькі ў канцы XX стагоддзя, калі ўвесь свет нашпігаваны ядзернымі бомбамі. У XIX ст. гэтую незалежнасць можна было атрымаць толькі двума сродкамі: праз ваенна-дыпламатычную падтрымку нейкай звышдзяржавы, як то Англія, альбо ўзяць у рукі зброю ды паўстаць...

**– Але калі сёння над Беларуссю паўстане пагроза яе незалежнасці, што будзе рабіць "Жонд"?**

— Мы будзем імкнуцца, па меры сваіх сціплых сіл, мірным, дыпламатычным шляхам ліквідаваць канфлікт, але калі чыесьці танкі з'явяцца каля нашага парламента, то збярэм усіх сваіх Сяброў ды пойдзем па шляху Каліноўскага...

**– Што вы яшчэ бярэце ад "Чырвонага Жонда" Каліноўскага?**

— Перш-найперш іх прагу да адраджэння велічы ды магутнасці Вялікага княства Літоўскага — дзяржавы нашых прадзедаў. Усё вяртаецца на кругі свая. Нацыя не можа існаваць без гісторыі, без гонару за сваіх продкаў, а беларускай нацыі ёсць чым ганарыцца. Вялікае княства Літоўскае ва ўсіх сферах жыцця грамадства было не проста на Еўрапейскім узроўні, а ў некаторых выпадках— нават вышэй.

**– Выбачайце, шаноўны спадар Канцлер, але ці можна адрадзіць тое, што знікла так даўно?**

— Беларусь узнікла не на пустэчы і не з неба звалілася, яе не камуністы прыдумалі, а яна з'яўляецца прамым нашчадкам Вялікага княства Літоўскага, у тым ліку і юрыдычна, бо дзейнасць Статута 1588 г. яшчэ ніхто не адмяняў. Адмяніць яго можа толькі Вальны Сойм Беларусі, які адначасова прызнае Беларусь, як пераймальніка Вялікага княства Літоўскага.

**– Ці значыць гэта, што "Чырвоны Жонд" вылучае палітычныя патрабаванні ды стане новай партыяй?**

— Ні ў якім разе. Нашая мэта — не палітычная барацьба за ўладу, а значна большая — гэта прапаганда. Каб тыя ідэі, якія я закрануў, ажыццявіліся, неабходна, каб яны авалодалі масамі.

Што датычыцца партый, то я сам, напрыклад, наогул не з'яўляюся прыхільнікам ідэі партыі, як формы палітычнай дзейнасці. Асабліва ў нас, на Беларусі, дзе індывідуальнасць думкі ды меркавання кожнага грамадзяніна на даволі высокім узроўні. Наш народ вельмі цяжка спакусіць палітычнай дэмагогіяй. Таму ў нас ніводная з існуючых партый не будзе з'яўляцца масавай: ні БНФ, ні Кампартыя, ні Сацыялістычная, ні Хрысціянская, ані якая іншая.

**– Добра, з мэтамі мы крыху разабраліся, цяпер маё пытанне датычыцца самой арганізацыі. Што гэта такое і з чым яго ядуць?**

— З бульбай, канешне!.. А калі сур'ёзна, то нашая арганізацыя завецца гісторыка-патрыятычнае аб'яднанне моладзі "Чырвоны Жонд". Чаму моладзі? Вельмі проста. Па-першае, яе асноўныя ўдзельнікі — маладыя людзі, а па-другое, вастрыё нашай агітацыі будзе накіравана пераважна на моладзь, бо за ёю — будучыня.

Статут нашага аб'яднання створаны паводле Статута Вялікага княства Літоўскага-1588 г., менавіта адтуль назоў маёй пасады — Канцлер. Так што нават наш Статут адначасова нясе як заканадаўчыя, так і прапагандысцкія функцыі.

Але "Чырвоны Жонд" прапагандуе не толькі гістарычную самасвядомасць, але й агульначалавечыя маральныя каштоўнасці. Мы выступаем супраць забойстваў, гвалту, драпежніцтва, крадзяжу, якога б то ні было прымусу. Мы выступаем за гарманічна развітага чалавека, якому ўласцівы такія пачуцці, як пачуццё Густу, пачуццё Такту ды пачуццё Меры, але гэта толькі падмурак для дасягнення сусветнай, касмічнай гармоніі. Таму мы выступаем супраць такіх хібаў у грамадстве, як алкагалізм, наркаманія, дрэннаслоўе, хамства.

**– Калі ласка, распавядзіце пра членства ды структуру "Жонда".**

— Згодна з апошняй рэдакцыяй нашага Статута, аб'яднанне мае падвойнае членства.

Першая катэгорыя — Сябар "Чырвонага Жонда"... У асноўным мы маем ад Сябраў "Жонда" маральную падтрымку. Узрост Сяброў, альбо іхні сацыяльны ці нацыянальны статус неабмежаваныя. Драб "Чырвонага Жонда" — гэта Сябар "Жонда", але які працуе ў арганізацыі прафесійна, на кантракце, за што павінен атрымліваць заробак і іншыя "прывілеі". Але й патрабаванні да Драбаў больш жорсткія. Яны павінны быць не проста прыхільнікамі нашага Статута, але цалкам яму падпарадкоўвацца ў асабістым жыцці. Ад Драбаў патрабуем дысцыпліны ды прафесіяналізму. Інакш — звальняем, і ён зноў зможа лічыцца Сябрам "Жонда".

**– Ці не жарсткавата гэта?**

— Мы вырашылі рабіць сур'ёзную справу. А справа патрабуе займацца бізнесам, бюракратыяй ды й проста адбірае шмат энергіі ды часу. І каб усё ішло на лад, неабходна мець самадысцыпліну, працавітасць, але, на жаль, у кожным з нас сядзіць маленькі д'ябал, які завецца лянотай. Каб яго перамагчы, неабходна ўводзіць такія вось жорсткія знешнія ўмовы, каб чалавека можна было паставіць перад выбарам.

Наконт структуры арганізацыі: Вальны Сойм з'яўляецца заканадаўчай установай аб'яднання. На Сойме таксама абіраюць Канцлера, які згодна сваіх густаў, вызначае Раду "Жонда". Рада складаецца з кіраўнікоў Камісій: Гаспадарчай Камісіі, Скарбовай, Вайсковай ды Канцыляры. Канцылярыя займаецца асноўнай прапагандысцкай дзейнасцю, і таму складаецца са шматлікіх Куратарстваў. Але, шчыра кажучы, будаўніцтва ўсяго гэтага мы толькі распачынаем. Не хапае сродкаў, фінансаў.

**– Выбачайце, але навошта "Чырвонаму Жонду" Вайсковая Камісія?**

— Нягледзячы на такую ваяўнічую назву, Камісія не будзе з'яўляцца сучасным вайсковым фарміраваннем. Асноўныя яе мэты: па-першае, прапаганда беларускай вайсковай гісторыі, прычым не словам, а дзеяствам. Мяркуем, як толькі дазволяць фінансавыя магчымасці, утварыць Гістарычную Харугву — рыцарскае вайсковае злучэнне.

Па-другое, паколькі мы заклалі ў нашыя мэты ідэю пабудовы гарманічна развітага чалавека, дзе гармонія павінна быць перш-найперш паміж душою і целам, то мы не можам не клапаціцца аб фізічным развіцці Драбаў ды Сябраў "Жонда". Асабліва гэта датычыць юнакоў, калі ўзнікае так шмат спакус...

**– І апошняе пытанне, што рабіць тым, хто зацікавіўся "Чырвоным Жондам"?**

— Нам зараз вельмі патрэбны актыўныя, нацыянальна-свядомыя людзі, здольныя дзеля акрэсленых перспектываў не пашкадаваць ні часу, ні энергіі. Ну, а што датычыцца тых, хто проста зацікавіўся "Жондам", то пішыце: 220050, Мінск, п/с 379.

**Перадрукавана з "Харугвы Свабоды" са скарачэннямі ды арфаграфічнай адаптацыяй.**

**Да друку падрыхтавала Алена Агібалава.**



# ВАРЫЯЦЫІ НА ТЭМУ ПЕРШАМАЯ,

## або Як ад чыкагскай іскры ў нас разгарэлася полымя

1 Мая — свята, якое не рызыкнулі адмяніць ні каманднa-бюракратычная сістэма, якая толькі афіцыйна лічылася сацыялістычнай, ні сучасныя палітычныя лідэры. Праўда, апошнія перайменавалі яго ў Свята Вясны. Але мала хто ведае, што гісторыю ўзнікнення першамайскага свята таксама ўмудрыліся сказіць, хаця, здавалася, дзень пралетарскай салідарнасці аніяк не мог пашкодзіць ідэалогіі КПСС — выразніцы інтарэсаў "гегемона". Але хто сёння пажадае даведацца аб нейкіх падрабязнасцях пра Першамай з Вялікай Савецкай, Беларускай, Украінскай, іншых энцыклапедый, ці з навукова-папулярнай літаратуры, напісанай у той час, толькі разводзе рукамі...

Падзеі ў даведніках і энцыклапедыях падаюцца з некаторымі варыяцыямі наступным чынам. 1 мая 1886 года ў Чыкага была расстраляна паліцыяй 600-тысячная дэманстрацыя працоўных, якія патрабавалі ўстанаўлення 8-гадзіннага працоўнага дня. Пасля чаго на мітынгу пратэсту 3 мая ў нарад паліцыі правакатарам была кінута бомба, якая забіла каля 7 паліцэйскіх. За гэта забойства кіраўнікі рабочых арганізацый былі прыгавораны да розных тэрмінаў пазбаўлення волі, а пяць з іх — да смяротнай кары. Іншымі словамі: ардынарны выпадак у гісторыі рабочага руху.

Але ўсё было інакш... У перыяд красавіцкага страйку 1886 года ў Чыкага ўпершыню ў гісторыі рабочага руху ЗША была дасягнута дамоўленасць паміж Амерыканскай Федэрацыяй Працы, сацыялістамі, анархістамі і шэрагам іншых палітычных арганізацый, якія функцыянавалі ў горадзе, аб правядзенні на 1 мая дэманстрацыі з агульнымі патрабаваннямі: 8-гадзіннага працоўнага дня, спынення практыкі лакаўтаў, выплаты забастоўшчыкам зарплаты за перыяд страйку. Канешне, цяжка паверыць, што на вуліцу выйшла 600 тысяч чалавек, бо ўсё насельніцтва Чыкага складала паўтара мільёна. Але, усё ж, страйк быў такім буйным, што ўлады не рызыкнулі прымяніць сілу. Ніякага расстрэлу 1 мая 1886 года не было. Дэманстрантам было абяцана разгледзець іхнія патрабаванні. Шэраг прадпрымальнікаў пайшлі на ўступкі. У адказ — некаторыя з працоўных арганізацый прынялі рашэнне аб спыненні страйку.

Аднак 1 мая на заводзе Мак-Корміка адбылося сутыкненне паміж тымі забастоўшчыкамі, якія вярнуліся на працу і даведаліся пра сваё звальненне, і штрэйкбрэхерамі, падтрыманымі паліцыяй. Апошняе супярэчыла раней дасягнутым дамоўленасцям. 4 мая ў Хэймаркет скверы сабраўся мітынг пратэсту, у якім удзельнічалі кіраўнікі ўсіх працоўных арганізацый. Гарадскія ўлады вырашылі расквітацца з імі адным махам. Быў высланы нарад паліцыі на чале з маёрам Гарысанам, які заблакаваў выхады і спрабаваў зрабіць арышты. Тады вось і кінулі бомбу, якая забіла аднаго паліцэйскага. Ці была гэта наўмысная правакацыя, даведацца цяжка, бо загінуў і сам бомбакідальнік. Удзельнікі мітынгу праўраліся. Але ўжо вечарам пачаліся арышты.

Затым адбыўся суд. На ім арыштаваным прад'явілі абвінавачванне не ў забойстве, а ў змове з мэтай звяржэння ўрада і захопу прадпрыемстваў. Яны былі прыгавораны да розных тэрмінаў зняволення, а сем з іх — Аўгуст Спайс, Альберт Парсонс, Майкл Шваб, Сэмюэль Філдэн, Адольф Фішэр, Георг Энгель і Луіс Лінг — да смяротнай кары. Лінг хутка загінуў у камеры пры загадкавых абставінах. Масавы рух у абарону асуджаных вымусіў улады замяніць Фішэру і Швабу пакаранне смерцю пажыццёвым зняволеннем. Астатнія ўсё-ткі былі пакараны смерцю. Але ўсёй Амерыцы, а потым і ўсяму свету сталі вядомыя словы Спайса: "Калі вы думаеце, што, павесіўшы нас, вы здолееце знішчыць рабочы рух, у якім мільёны прыгнечаных людзей працы, якія жывуць у беднасці і галечы, бачаць выратаванне,.. тады, павесьце нас. Але ведайце, што вам удасца патушыць толькі іскру, адну іскру, а паўсюль — і ў Чыкага, і ў іншых гарадах — усюды разгараецца полымя барацьбы... І вы не ў сілах патушыць яе".

У 1889 г. І кангрэс ІІ Інтэрнацыянала з прапановы французскага дэлегата Лавіня вынес пастанову аб абвяшчэнні 1 мая Днём міжнароднай салідарнасці ўсіх, чыей адзінай крыніцай існавання з'яўляецца праца па найму, усіх, незалежна ад нацыянальнасці, расы, веравызнання, партыйнай прыналежнасці.

Юры АФОНІН,
гісторык.

*На маю думку*

# КРОПЕЛЬНІЦА ДЛЯ ПАМІРАЮЧАЙ ЭКАНОМІКІ

Не сакрэт, што цэны на многія прадукты харчавання ўзраслі не ў тры-чатыры разы, як абяцаў урад Кебіча, а ў 10-12 і больш разоў. Калі добра разабрацца, дык пра ніякую рэформу не можа быць і гаворкі. Навідавоку самае звычайнае дзяржаўнае павышэнне цэн. Тое, што павінна спадарожнічаць рэформе — прыватызацыя, антыманапольныя меры, структурная перабудова эканомікі і будаўнічага комплексу, — усё гэта пакуль што толькі дыкларуецца.

А лібералізацыя цэн ужо ідзе поўным ходам, але... не ў той бок. Яна не стымулюе вытворчасць, а вядзе да яе згортвання і скарачэння. Бо не рынакчны механізм узнёс цэны ў крамах у захмарныя вышыні, а пастановы Савета Міністраў. На класічным рынку — базары — усё часцей прадукты прадаюць па цэнах, ніжэйшых, чым дзяржаўныя ў крамах. Дык што, з дзіравага рынкавага мяшка тырчыць старое адміністрацыйнае шыла? А святы запавет рынку — цану гаспадару тавару ніхто не дыктуе зверху. Урад узмоцнена выбівае празмерныя падаткі, якія вядуць да скачкападобнага росту цэн, і не ўлічвае, што грошы, якія трапляюць у бюджэт за кошт росту цэн, забяспечаны паветрам, а не таварамі, і толькі спрыяюць інфляцыі. Вышэйшыя кіраўнікі патрапілі ў палон рыначных ілюзій. І тады дыктары тэлебачання з радасным дрыжаннем у голасе паведамляюць, што кошт двухсотрублёвай каўбасы знізіўся на 10 рублёў, што пачалося паўсюднае вяртанне на прадпрыемствы непрададзеных, з-за высокага кошту, прадуктаў. І гэта вызначаецца як праяўленне рыначных механізмаў, у той час, як прадукты, якія не знайшлі пакупніка, альбо знішчаюцца, альбо ідуць на харчаванне жывёле. Тым самым дыскрэдытуецца ідэя рынку, якая прадугледжвае зніжэнне затрат, укараненне новай тэхналогіі, зніжэнне кошту тавараў.

Найвялікшая памылка нашых урадавых чыноўнікаў — гэта надзея на тое, што попыт вылечыць эканоміку. У нашай манапалізаванай дэфіцытнай эканоміцы попыт дзейнічае ненармальна, ён прымушае вытворцу скарачаць аб'ёмы, павышаць цэны, арыентуючыся на багатых пакупнікоў. Такім чынам, цэны адсякаюць усё больш людзей ад прылаўка. Павышэнне зарплаты таксама нічога не дае, а толькі спрыяе інфляцыі.

У выніку мы атрымалі картачную сістэму, як кропельніцу для паміраючай эканомікі і грашовую рэформу, пры якой зберажэнні людзей ператвараюцца ў капейкі з-за жахлівай гіперінфляцыі.

Калі ўрад пайшоў на рэзкае зніжэнне жыццёвага ўзроўню насельніцтва, дык ён павінен быў кампенсаваць яго не пустымі абяцанкамі, не заклікамі пацярпець паўгода, а перадачай права ўласнасці на жыллё, зямлю, нерухомасць, акцыі. Калі гэтага тэрмінова не зрабіць, то хаатычны, некіруемы стан грамадства можа прывесці да ваеннага перавароту. Для гэтага ўмовы ёсць — ушчэмленая армія, пражэрлівы ваенна-прамысловы комплекс, былыя партыйныя структуры, якія прагнуць рэваншу, стыхія вуліц.

Беларусі патрэбны свой Дэн Сяопін. У камуністычным Кітаі ён за некалькі гадоў дасягнуў багацця прадуктаў і тавараў. Зараз, калі кватэры ў нашых гарадах каштуюць 200-300 тысяч рублёў, пачнецца адток насельніцтва ў вёску. Калі рупліва выкарыстаць зямлю, дык Беларусь пракарміла б не толькі сябе, але і палову Расіі — да Волгі, напэўна. А звышдарагія трактары і



камбайны не абавязкова набываць, іх можна браць напракат ці карыстацца паслугамі аднаўленых МТС.

Для ўзняцця эканомікі можна легалізаваць ценевікоў, з якімі дзяржава беспаспяхова змагаецца ўжо паўстагоддзя. Яны павінны заплаціць падатак за няправедна нажытыя капіталы, але не рублямі, а валютай або матэрыяльнымі каштоўнасцямі. Ценевікам можна даць пустуючыя зямельныя ўчасткі і даць магчымасць будаваць тое, што ім патрэбна, — заводы, гасцёўні, крамы, кабарэ, дамы, рэстараны, атракцыёны. Гэта, між іншым, дасць многія тысячы дадатковых працоўных месцаў.

**Вячаслаў ІШЧАНКА,**
**інжынер.**
**Мінск.**







*Нацыянальная валюта*

# Беларускі рубель. Гэта яшчэ не талер

Гаворкі аб увядзенні нацыянальнай валюты на Беларусі вядуцца ўжо даўно. Спрэчкі сціхаюць і распаляюцца кожны раз нанава і ўсё з большай сілаю. І вось, у рэшце рэшт, мы маем хоць і не талеры, але нешта накшталт таго — шматразовыя купоны. Замест профілю правадыроў на іх змешчаны выявы розных жывёлін, якімі (не ведаю ўжо нават, як на сённяшні дзень) поўніліся колісь лясы Беларусі. Кожная "звяруга" мае свой лічбавы эквівалент: па ўзрастаючай. Не ведаю, як пашчасціла вавёрцы ўскочыць так высока — аж на 50 рублёў, але ў астатнім жывёліны свайму кошту адпавядаюць. Праўда, нідзе на храбусткай паперы слова "купон" не напісана. Адзіныя подпісы гэта: "разліковы білет нацыянальнага банка Беларусі" і "рубель". На пытанне "Чаму ж гэты купон адразу не назваць нацыянальнай валютаю?" прадстаўнік Міністэрства фінансаў адказаў: "Таму, што яны будуць дзейнічаць адначасова з савецкім рублём". А можа адбіваецца яшчэ і тое, што на банкноце напісана "рубель", а не талер? Зрэшты, на білеце дробным шрыфтам пазначана: "Падробка разліковых білетаў Нацыянальнага банка Беларусі праследуецца па закону". А гэта ўжо нешта значыць. Найхутчэй такія суровыя папярэджанні зроблены з улікам таго, што калі рубель усё ж такі канчаткова абанкруціцца, то гэтыя шматразовыя купоны здольныя будуць часова выконваць ролю самастойнай грашовай адзінкі. Да таго часу, пакуль не з'явіцца сапраўдны, добра прадуманы і абаронены талер.

Дарэчы, паводле сцвярджэння Сяргея Слабчанкі, кіраўніка Беларускага Дзяржзнака, шматразовы купон здольны абараніць сябе ад фальшываманетчыкаў больш паспяхова, чым савецкія грошы і нават украінскія шматразовыя купоны. Не ведаю, ці ёсць яшчэ які-небудзь сакрэт у гэтых купюр, акрамя нумарацыі, як і не ведаю, у якую суму абыдзецца беларускім падаткаплацельшчыкам друкаванне "шматразовага" беларускага рубля. Магчыма, для шэфа Дзяржзнака гэта "камерцыйная тайна", толькі ці не апраўдана жаданне людзей ведаць, на што ідуць іхнія грошы. Адзінае, што стала вядома, — яны абыдуцца разы ў тры танней, чым аднаразовыя. Не раскрыў спадар Слабчанка і сакрэту, дзе друкуюцца новыя купоны. Як не вядома і тое, па якой сістэме будуць яны працаваць. Прапаноўваць гэтую сістэму павінен Нацыянальны банк і Міністэрства фінансаў, толькі ў іх, відаць, і без таго галаўных боляў хапае. З боку Урада паступіла толькі адно паведамленне: шматразовыя беларускія купоны пакрыюць усю рублёвую масу і будуць ужывацца нароўні з рублём.

Што да таго, калі яны будуць пушчаныя ў абарачэнне, то і гэта не вядома. Пакуль што няма патрэбнай іх колькасці, ды й парадак выкарыстання трэба ўсё ж распрацаваць і зацвердзіць. Можа гэта здарыцца ўжо 1 чэрвеня. Толькі ці не спазняемся мы на фоне Прыбалтыкі і Украіны?

**Зм. ЛУКАШУК.**
**Тэл. 39-87-94.**









# СЦЯГ НАД СЕЛЬСАВЕТАМ

Наша знаёмства са старшынёй Міханавіцкага сельсавета Валянцінам Васільевічам Драздовым пачалося з... трубы. Справа ў тым, што ў больш чым дзве сотні міханавіцкіх дамоў не падведзены газ, і цяпер, калі з кожным днём матэрыялы, неабходныя для газіфікацыі даражэюць, правесці газ, гэтак кажучы, цэнтралізаваным спосабам проста немагчыма. Як высветлілася, аб'ект, што быў запланаваны да здачы ў 1990 годзе, замарожаны. Але гэта толькі на паперы. На справе ж, дзякуючы немаганням сельсавета, работы вядуцца. І, відаць, жыхары Міханавіч будуць з газам.

Для даведкі. Міханавіцкі сельсавет утвораны 20 жніўня 1924 года. З 1935 года належыць да Мінскага раёна, а з 1931 па 1935 нават уваходзіў у мяжу Мінска. Тэрыторыя 8,5 тысячы гектараў, у 15 населеных пунктах пражывае 7,5 тысячы чалавек. Будынак сельсавета — маленькі зялёны дамок пад дзяржаўным сцягам Беларусі.

Цяпер, калі разгарнулася кампанія па прадастаўленню зямлі гаражданам, сельсаветы апынуліся на першай лініі барацьбы. Барацьбы з кім? З сістэмай, якая ўстаялася гадамі. Як сцвярджае Валянцін Драздоў, мы зноў кінуліся ў крайнасці. Даць кожнаму да гектара зямлі — гэта утопія. Іншая справа — па ўчастку меншай плошчы. Тут ужо больш гарантыі, што зямля пустой не будзе, што ў людзей хопіць сіл і магчымасцей працаваць на ёй, ды гэтак, каб яна давала найвялікшую аддачу. Сапраўды, калі папросіць зямлі, напрыклад, інжынер, захоча стаць фермерам... Дык ён жа інжынер, а не фермер! Ён павінен распрацаваць для нас жа, для сялян, машыны, трактары новыя, аўтаматычныя сістэмы. А хочацца чалавеку пакаштаваць вырашчанай сваімі рукамі садавіны — для гэтага яму 6 сотак хопіць.

У дадатак да ўсяго, зямлю пад фермерскія гаспадаркі выдзяляюць з зямель запасу, а ў Міханавіцкім сельсавеце няма такіх зямель — балоты вакол. Ды і сутыкаюцца ў гэтай справе інтарэсы сельсавета і гаспадарак, якія размешчаны на яго тэрыторыі. Сельсавет, па ідэі, павінен абараняць інтарэсы ўсіх, калгас і саўгас — толькі сваіх людзей. Вось і атрымліваецца, што сельсавет практычна нічога не вырашае.

Большай часткай калгаснікі зямлі не просяць, у фермеры з іх мала хто ідзе. Прыходзяць людзі з боку, прычым, людзі, якім толькі падаецца, што варта ўзяць зямлю — усе праблемы вырашацца самі сабой. Не вырашацца! Гэта справа далёка не сённяшняга дня. Сёння большая частка тых, хто імкнецца атрымаць свой надзел, разлічваюць проста выгадна прадаць яго праз некаторы час. Зямля, наогул нерухомасць — гэта сапраўды выгаднае укладанне капіталу. Вось таму, відаць, і не гараць жаданнем кіраўнікі гаспадарак выдзяляць жадаючым зямельныя ўчасткі. Лагічна? Ды й натуральна, няўжо хопіць мізэрнага банкаўскага крэдыту на набыццё тэхнікі, на тое, каб набываць паліва? На гэтае паліва фермерам лімітаў не даюць, дамаўляцца ж з калгасным кіраўніцтвам — гэта "сёння дам, а заўтра — не".

Зараз у сельсавеце вядзецца інвентарызацыя зямель. Як і ўсе іхнія продкі, сельсаветчыкі ходзяць з "казой", складаюць зямельны рэестр. Трэба ведаць сваю зямлю, гэта ж такое багацце!

Праблем у сельсавета шмат. Галоўная з іх — недакладнасць заканадаўства, празмерная цэнтралізацыя. Узяць тую ж газіфікацыю — калі не займаецца ёю Упраўленне капітальнага будаўніцтва, чаму б не перадаць фонды, фінансы таму ж сельсавету? УКБ нічога не будзе, а штаты ў яго засталіся. Таму і сцвярджае старшыня сельсавета Валянцін Драздоў, што цэнтралізацыя сябе не апраўдвае, большасць функцый — гаспадарчых, нават размеркавальных — трэба перадаць сельсавету, наогул, мясцовым уладам. Як жа вядзецца зараз штодзённая сельсавецкая работа? Трэба ж і будаваць, і добраўпарадкоўваць тэрыторыю... А для гэтага і тэхніка патрэбна, і матэрыялы... Вось і прыходзіцца круціцца старшыні сельсавета. Круціцца, як вавёрцы ў коле дзяржаўнай неарганізаванасці, абыякавасці да інтарэсаў людзей, якія жывуць на зямлі, робяць гэтую зямлю гасціннай, заможнай... Былі б толькі магчымасці...

Будаўніцтва, напрыклад, вядзецца на долевых пачатках. Маўляў, усёй грамадой пабудуем. Выдзелілі Захтрансгазу пяцьдзесят участкаў зямлі — ён у сваю чаргу дапаможа з трубамі... Іншыя ж бартэр навязваюць. А што сельсавет можа даць па гэтым бартэры? Адкуль у сельсавета, напрыклад, мяса? Ісці да калгаса з працягнутай рукой?

У прынцыпе, ва ўмовах такой неразбярыхі можна знайсці ўсё што хочаш. Але так круціцца можа далёка не кожны. Тым больш, што ніякай гарантыі няма. Знойдзеш патрэбнае — добра, а не знойдзеш — ніякі аблвыканкам не дапаможа.

Пытаемся ў старшыні: ці маюць які-небудзь уплыў на падзеі дэпутаты сельсавета? Драздоў адказвае: усё роўна той дэпутат пойдзе да мяне. Ды што ён можа, сапраўды? Што можа дастаць, выбіць настаўнік, аграном? Калі ён пачне на мяне націскаць — дык я сам цудоўна ведаю, што дзе трэба зрабіць. Вось калі ў сельсавета з'явіцца свой бюджэт, тады і будзе мець уладу дэпутат, зможа штосьці зрабіць самастойна. Пакуль што ўвесь сельсаветаўскі бюджэт — фонд зарплаты. І ні капейкі на развіццё. Відаць, нават ад самаабкладання адмовімся — па-першае, гэта справа дабрачынная, а па-другое, што за тыя капейкі зробіш? А пакуль што як хадзіла савецкая ўлада з працягнутай рукой, так і ходзіць.

А людзі ж у раён не звяртаюцца. Ідуць у сельсавет. Што толку звяртацца наверх, калі ўсё роўна з гэтага верху ўсё пойдзе сюды ж...

Не вельмі аптымістычныя нататкі. Але проста прыемна было ўбачыць за сталом старшыні сельсавета чалавека не разгубленага, кіраўніка, які нават ва ўмовах адсутнасці рынычных механізмаў, у разбуранай сістэме гаспадарання ўмудраецца яшчэ рабіць для людзей карысныя справы. Будзе ў Міханавічах газ. Будзе, але не дзякуючы тым, хто якраз і павінен рупіцца аб такіх капітальных бодоўлях. Будзе, дзякуючы людзям, якім не ўсё роўна, як жыць.

**Алесь ПАЛЫНСКІ.**

*НА ЗДЫМКАХ:*

**"БУДНІ СТАРШЫНІ СЕЛЬСАВЕТА".**

- Абсыпка дарогі ў вёсцы Дубовы Лес.
- Размова з пенсіянерам Сяргеем Фёдаравічам Прохарчыкам.
- Абмер зямлі праводзяць старшыня і супрацоўніца сельсавета Ніна Паўлаўна Быкоўская.
- Тэхніка XX стагоддзя.

Фота С.БРУШКО.

# Свята юраўскага дня

У цыкле веснавых народных свят важнае месца займае юраўскае свята (св.Юры, Юрай, Георгій, Ягорый). Шырока вядомае ва ўсім славянскім свеце, яно прымеркавана да дня 6 мая (23 красавіка ст.ст.). У адпаведнасці з Біблiяй і найбольш значнымі датамі царкоўнага календара, у гэты дзень у 303 г.н.э. загінуў мужны рымскі афіцэр Георгій Перамоганосец, які спавядаў хрысціянства і сваёй непахіснасцю пераканаў многіх людзей прыняць веру Хрыста. За такі гераічны ўчынак царква кананізавала яго як святога вялікамучаніка, а народная свядомасць захавала памяць аб ім, як аб адным з найбольш шаноўных святых. Сведчанне таго — шматлікія вуснапаэтычныя творы (песні, замовы, казкі, прыказкі), прыкладное мастацтва, іканапіс, помнікі дойлідства (храмы, якія насілі яго імя). У адной з валачобных песень пералік хрысціянскіх свят пачынаецца з Юр'я:

*"А ў той царкве прастол стаіць,*
*За прастолам сам Бог сядзіць,*
*Каля Бога ўсе празнічкі —*
*Шыкуюцца, рахуюцца,*
*Катораму ўперад ступіць.*
*Першы празнік — святы Юра".*

Вучоныя-славісты лічаць, што гэты хрысціянскі святы замясціў на больш познім этапе надзвычай значнае язычніцкае боства, якое апекавала свойскіх жывёл і дзікіх звяроў. Таму і святы Георгій у фальклорных крыніцах ахоўвае свойскую жывёлу, дапамагае пастухам і нават вызначае, якую жывёліну павінны з'есці ваўкі. Такому разуменню вобраза Георгія, відаць, у значнай ступені спрыяла яго іканапісная выява — ён заўсёды сядзіць верхам на кані.

Адзначым, што з усіх славянскіх народаў беларусы найбольш поўна захавалі старажытныя абрадавыя дзеянні і песні, якія характарызуюць непаўторнасць святкавання юраўскага дня. Дзе б ні даводзілася фалькларыстам і этнографам запісваць гэты абрад, ён абавязкова ўключаў засцерагальныя, заклінальныя і магічныя дзеянні, вытокі якіх трэба шукаць у светапогляднай сістэме нашых далёкіх продкаў. Перш за ўсё лічылася, што менавіта ў гэты дзень абавязкова неабходна было першы раз пасля зімы выгнаць скаціну ў поле. У адпаведнасці з народнымі легендамі і песнямі ў гэты дзень Георгій вярхом на кані аб'язджаў палеткі і браў пад сваю апеку ўсю скаціну. Парушэнне гэтага звычаю магло прывесці да вялікіх страт і значнага пагаршэння становішча гаспадаркі.

*— Святы Юрый, дзе ж ты бываў?*
*— Па палях хадзіў, жыта радзіў,*
*Жыта, пшаніцу, усякую пашніцу.*
*Дай табе Божа, пане гаспадару,*
*Дзе горачка — жыта копачка,*
*Дзе лагчынка — пшаніцы сцірта,*
*Дзе лужочак — сена стажочак!*
*Дай табе Божа, пане гаспадару,*
*І ў каморы, і ў аборы,*
*А на стайні — вараныя коні,*
*Конікі касаты, цялушкі рагаты,*
*Авечкі лахматы, свіначкі віхраты,*
*Гусачкі храшчаты, курачкі чубаты.*

Амаль паўсюдна (у тым ліку і ў нашым раёне) гаспадыні выганялі з двара кароў і коней вельмі рана. Пры гэтым у варотах абавязкова клалі велікоднае яйка, пояс (пазней рэмень), які прадзявалі праз замкнёны замок. Выкарыстанне кожнай з гэтых абрадавых рэчаў мела сімвалічнае значэнне. Так, яйка павінна было забяспечыць будучы прыплод, захаваць на працягу года скаціну здаровай; пояс ахоўваў жывёлу ад усялякіх пашкоджанняў, як быццам прывязваў яе да свайго двара, а замок, у адпаведнасці з народнымі ўяўленнямі, надаваў усім дзеянням большую моц, як бы замыкаў вакол статка магічную агароджу. Сяляне верылі таксама, што ён быццам бы замыкаў ваўкам ляпу. Магічная роля замка яскрава бачна на прыкладзе замоў, якія звычайна заканчваюцца словамі "Маім словам ключ і замок".

Выганяючы жывёлу з двара, гаспадыня абавязкова лёгенька біла яе асвячонай у царкве на Вербніцу галінкай вярбы. Тым самым яна імкнулася перадаць карове ці каню веснавую жыццяздольнасць, жадала, каб яны былі дужыя, здаровыя і абавязкова павялічылі прыплод гаспадарцы. Затым галінку вярбы ўтыкалі ў шчыліну сцяны або клалі пад страху хлява дзеля таго, каб яна спрыяла штодзённаму вяртанню жывёлы дадому.

Звычайна ўсе абрадавыя дзеянні выконваліся моўчкі. Аднак больш руплівыя і гаспадарлівыя жанчыны абавязкова шапталі якія-небудзь замовы або малітоўныя заклінанні. Яны маглі быць кароценькія і зусім простыя:"Як гэтае яйка цэленькае, кругленькае, так і мая скацінка каб была поўная, цэлая і сытая" ці "Дзе гэта рабая скацінка будзе хадзіць, там будзе і начаваць. Дзень была пад сонцам, вечар пад месяцам, сонцам асвяцілась, месяцам агарадзілась, зорачкамі асыпся". А маглі мець і больш разгорнуты сюжэт. Паспрабуйце выкарыстаць у гэтым годзе вось такую прыгожую замову: "Святы Ягоры ездзіў на сваём сівенькім і бяленькім кані, ездзіў па лясох, па палёх, па чыстых барох, па зялёных лугох і сабіраў сваіх лютых псоў, дзікіх ваўкоў, сабіраў сівых і шэрых, і рудых, і тры сарты. І заганяў іх за сцяну камянную, і замыкаў ім і зявы і раты, каб ня маглі на маю скаціну ні на якую — ні на сівую, ні на шэрую, ні на чорную, ні на белую зявоў не разявіць, зубоў не разняць, і ў маю скаціну вострых сваіх нечасцівых клыкоў ня ўпушчаць. Не я ж іх за сцяну камяную заганю, і не я ж ім і зявы і раты замыкаю,— заганяець іх, замыкаець ім сам святы Ягоры. І замкні, святы Ягоры, на ўсё лета ад мае скаціны. Амінь". Пасля гэтых слоў бабуля, пазней і маці, брала нож і тройчы абводзіла ім вакол варот хлява — рабіла своеасаблівую магічную агароджу вакол каровы для таго, каб яе не задраў воўк, калі жывёла адыдзе ад статка і заблудзіцца дзенебудзь у лесе. У іншых мясцовасцях рэспублікі замест гэтага простага абрадавага дзеяння выконваўся больш складаны, разгорнуты рытуал, які атрымаў назву абыход жывёл. Раненька гаспадыня ўсцілала стол настольнікам, клала хлеб з соллю, запальвала свечкі, малілася богу, потым адразала акраец хлеба, пасыпала яго соллю, закручвала ў ручнік і выходзіла ў двор. Там разам з гаспадаром і пастухом тройчы абыходзілі жывёлу, абпырсквалі свянцонай вадой і толькі пасля ўсяго гэтага выганялі з двара.

Адну з найбольш важных роляў у Юраўскай абраднасці выконвалі пастухі. Для іх гэта было, умоўна кажучы, спецыяльнае прафесійнае свята. Сялянскі гурт дарушаў ім увесь вясковы статак, сваё галоўнае спадзяванне на дабрабыт. Такі пачэсны абавязак быў звязаны з пэўнымі патрабаваннямі: пастух павінен быў быць шчырым і добразычлівым, уважлівым назіральнікам, ведаць адпаведныя замовы і не мець ліхога вока, якое "магло забіраць малако ў каровы".

Звычайна пастухоў адорвалі хлебам, кавалкам сала, яйкамі, пляшкай гарэлкі. Выгнаўшы статак на поле, яны раскладвалі вогнішча, рыхтавалі пачастунак, абавязкова пяклі яечню, з якой потым абыходзілі тры разы ўвесь статак.

Акрамя выразнай жывёлагадоўчай накіраванасці юраўскае свята было напоўнена і іншымі сельскагаспадарчымі клопатамі. У шматлікіх валачобных песнях акцэнтуецца ўвага на аграрна-магічных дзеяннях св. Юр'я: ён напаўняе зямлю жыватворнай вільгаццю, выпускае веснавую расу, чым спрыяе забеспячэнню багатага ўраджаю:

*Святы Юр'я — Божы пасол,*
*Божы пасол да Бога пайшоў,*
*А ўзяў ён ключы залатыя,*
*Адамкнуў зямлю сырусенькую,*
*Пусціў расу цяплюсенькую*
*На Белую Русь і на ўвесь свет.*

Нашы продкі лічылі, што ў гэты дзень абавязкова неабходна наведаць палеткі, інакш яны не дадуць ураджаю. Звычайна гаспадар уставаў да ўзыходу сонца, браў гарэлку, косці ад "свянцонага" стала, загортваў усё гэта ў настольнік і абыходзіў з ім поле, па вуглах якога ўтыкаў косці і прыгаворваў: "Святы Божа і святы Ягоры! Захавайце ніўку ад граду". Калі ён вяртаўся дадому, уся сям'я частавалася тым хлебам. Зразумела, што рытуальнае закопванне ежы — даволі старажытны звычай адорвання зямлі-карміліцы, каб яна спрыяла добраму ўраджаю.

У некаторых мясцінах да гэтага свята былі прымеркаваны і іншыя абрады. Асабліва цікавым уяўляецца абыход поля моладдзю. Дзяўчаты рассцілалі на жытнёвай руні посцілку, якая намакала ад ранняй расы, збіралі і неслі дадому. Дома яе моцна выкручвалі, а юраўскай роснай вадою апырсквалі жывёлу, прамывалі вочы і іншыя часткі цела, асабліва хворыя, параненыя. Гаючыя здольнасці юраўскай расы шырока выкарыстоўвалі народныя лекары, якія раілі хворым людзям пакачаюцца па жнiўцы дзеля здароўя.

Такім чынам, св. Юрай (Георгій) у народнай свядомасці з'яўляецца і ахоўнікам статка і ўладаром вільгаці, неабходнай для росту раслін.

З часоў Кіеўскай Русі св. Георгія лічаць і ахоўнікам войска, таму адной з пачэсных узнагарод стаў "Георгіеўскі крыж".

**Іван Крук,**
**кандыдат філалагічных навук.**

# Радаўніца: ПАКЛАНІСЯ СВАЙМУ РОДУ-ПЛЕМЕНІ!

Памяць аб сваім родзе і ўшанаванне яго продкаў — гэта характэрная святая повязь многіх і многіх пакаленняў, якая спрадвеку захавалася ў нашым народзе як нешта пачэснае і дарагое. Памяць аб продках — гэта яшчэ і своеасаблівы вусны летапіс свайго роду, які перадаваўся ад пакалення пакаленню, ад старэйшых малодшым, які сцвярджаў жыццё і вучыў жыццю. І ў гэтым родавым летапісе ніхто і ніколі не застаецца не заўважаным і не знікае бясследна, незалежна ад таго, добрую ці дрэнную памяць пра сябе пакідае чалавек. Так было з нашымі папярэднікамі, так будзе і з намі.

У коле штогадовых каляндарных абрадаў на большай частцы этнічнай Беларусі чатыры разы памінаюць сваякоў-нябожчыкаў: тройчы за сталом у роднай хаце — гэта на дзяды масленічныя, траецкія і змітраўскія і адзін раз на могілках — у дзень Радаўніцы.

Святкаванне Радаўніцы характэрна для ўсяго ўсходнеславянскага рэгіёна. Адзначаецца яно на наступным пасля Вялікадня тыдні ў аўторак і гэтак жа, як і Вялікдзень, не мае пастаяннай даты. У залежнасці ад месячнага календара штогадовае святкаванне Радаўніцы выпадае на красавік — першую палову мая і ў гэтым годзе будзе адзначацца *5* мая.

Радаўнічны абрад паходзіць з часоў язычніцтва. Сярод многіх боставў славян-язычнікаў значнае і пачэснае месца адводзілася Бажаству Рода, Радагосту, вобраз якога параўноўваўся з далёкім продкам — родапачынальнікам славян. Пра гэта сведчыць хоць бы той факт, што ідал яго быў поўнасцю адліты з золата, а ложа зроблена з прыгожай пурпуровай тканіны.

З даўніх часоў чалавек верыў, што памёршы не знікае бясследна, а ператвараецца ў Духа свайго роду, яго заступніка. Некаторыя формы гэтага веравання захаваліся і да нашага часу. "Цур, мяне!",— крычаць дзеці, гуляючы ў хованкі, "Цур, мяне!",— гаворыць стары чалавек, калі яму пагражае небяспека. Цур, Прашчур — ніхто іншы, як наш далёкі продак, да якога людзі і звяртаюцца за дапамогай. Вядомыя ў беларускай міфалогіі вобразы Дамавога, Русалкі, Палевіка і іншыя ўяўляюць дэманічныя істоты, якія ўвасобілі ў сабе гэтыя Духі.

Назіраючы за штогадовым колам прыродных з'яў, старажытныя людзі лічылі, што з вясенім ажыўленнем прыроды душы памёршых таксама ажываюць пасля зімовай спячкі і ў гэты дзень наведваюць месцы пахавання свайго цела, дзе нябачна сустракаюцца з жывымі членамі роду.

Ідучы да месца спачывання памёршых, чалавек не толькі выказваў ім сваю любоў і пашану, але разлічваў па магчымасці задобрыць іх, каб атрымаць спагаду і дабрадзеянне ў адносінах да сябе. Беларусы спрадвеку верылі, што Духі продкаў пастаянна і нябачна наведваюць іх дом і здольны рабіць дабро альбо зло, садзеянне ці шкоду ў гаспадарцы селяніна. Некаторыя вучоныя звязваюць з гэтым вераваннем нават паходжанне назвы Радаўніцы. Радаўніца — рада — радзіць: меркавалі, што людзі прыходзяць да магіл сваякоў, каб парадзіцца з імі аб вырашэнні пэўных гаспадарчых праблем, цяжкасцей і турбот, што ўзнікалі ў паўсядзённым чалавечым жыцці. Дарэчы, многія памінальныя стравы, што прыносілі на могілкі, мелі назначэнне ахвярапрынашэння Духам продкаў.

Радаўнічны абрад амаль што аднолькава захаваўся на этнічнай тэрыторыі беларусаў, і запісаныя яшчэ ў мінулым стагоддзі некаторыя лакальныя асаблівасці правядзення Радаўніцы ў асобных рэгіёнах мала чым адрозніваюцца паміж сабой і хутчэй падкрэсліваюць каларыт мясцовых традыцый і звычаяў.

Напрыклад, у Ваўкавыскім павеце Гродзенскай губерні ў гэты дзень сяляне апоўдні збіраліся ўсе ў царкве, дзе служылі паніхіду па нябожчыках, і рабілі агульную абедню. Пасля гэтага забіралі запрастольны крыж, харугвы і разам са святарэнікам, якi апранаўся ў жалобную рызу, ішлі на могілкі, спяваючы па дарозе святыя песні. На могілках кожны з сялян запальваў на магілах сваякоў і нават знаёмых нябожчыкаў, калі да іх некаму было прыходзіць, свечку і клаў велікоднае яйка. І пакуль псаломшчык спяваў "Вечную памяць", пераходзячы ад адной магілкі да другой, жанчыны чулліва і са шкадаваннем галасілі над захаваннямі родных людзей.

У многіх паветах Магілёўскай губерні на Радаўніцу да абеду займаліся звычайнымі гаспадарскімі справамі, але да паўдня ўсе работы заканчвалі. Нават калі здаралася, што ў гэты час былі каровы на пашы, то пастухі абавязкова прыганялі іх да паўдня дамоў. Сабраўшыся ў сваёй хаце, уся сям'я садзілася за абедзенны стол, за якім даядалі рэшту пасхальных страў і памінали памёршых. А затым пасля абеду ішлі на могілкі, дзе памінальная трапеза працягвалася. Абедалі тут звычайна на магіле найбольш паважанага члена свайго роду.

У цэнтральных паветах Віцебскай губерні могілкі ў першы раз вясною наведвалі ў вербную нядзелю, калі на магілу кожнаму нябожчыку свайго роду прыносілі і ўтырквалі галінку пасвячонай вярбы. У гэты ж час аглядалі магільныя насыпы і вызначалі, дзе і што патрэбна падправіць. Хадзілі туды і на другі дзень Вялікадня, каб пахрыстосавацца са сваімі нябожчыкамі і аднесці ім велікоднае яйка. У дзень Радаўніцы кожная гаспадыня рабіла двайны абед: для хатняга стала — юшку, клёцкі і куццю і для памінальнай трапезы на могілках — бліны, смажаныя бульбянікі, блінчыкі з тварагом і іншае печыва, а таксама рэшту велікоднага стала і абавязкова сыр, яйкі і гарэлку. Паабедаўшы ў сваёй хаце, маліліся перад абразамі, пасля чаго ўсе, ці толькі старэйшыя члены сям'і, выпраўляліся да месца спачывання памёршых.

У некаторых вёсках на Віленшчыне памінальны стол рабілі ў бліжэйшай да могілак хаце. На такое агульнавясковае застолле збіраліся толькі тыя, чые родзічы былі пахаваны на гэтых могілках.

Сённяшні радаўнічы абрад памінання нябожчыкаў мала чым адрозніваецца ад тых, што запісаны ў мінулым стагоддзі на Беларусі. Гэтак жа напярэдадні свята родзічы памёршых прыводзяць у парадак магілы продкаў: абкладваюць іх дзёрнам, зверху пасыпаюць свежым жоўтым пяском, садзяць на магільных насыпах і вакол іх кветкі.

У дзень Радаўніцы, звычайна пасля паўдня, усе члены сям'і апранаюцца ў святочнае адзенне і ідуць на могілкі. Старэйшая з жанчын засцілае магілы сваіх памёршых продкаў светлымі абрусамі, на якія кладуць чырвоныя пасхальныя яйкі, пячэнне, цукеркі. Надмагільныя крыжы абвязваюць белымі вышыванымі ручнікамі, а ў многіх мясцовасцях вешаюць на крыж невялічкія вяночкі, зробленыя з яркіх штучных кветак.

Па просьбе сваякоў і за невялікую плату святарэнік моліцца над магіламі нябожчыкаў "за спачын душ памёршых". У гэты ж час у многіх месцах можна пачуць галашэнні: гэта прыпаўшы да магільных насыпаў, плачуць жанчыны:

*Узнімiцеся, буйныя вецярочкі!*
*Развейцеся, жоўтыя пясочкі!*
*...Разнясіце, вецярочкі,*
*Маю пячаль па мамачцы,*
*Падніміце радзіцелку*
*З зямелькі сырой цяжанькай.*
*Разнясіце досачкі сасновыя,*
*Развяжыце ручкі яе белыя,*
*Адкрыйце вочкі яе ясныя,*
*Вярніце мне маю мамачку!..*

У гэтых журботных радках, з не менш журботнай і характэрнай для іх мелодыкай, часам гучалі высокамастацкія ўзоры народнай паэзіі, пранікнутыя любоўю, глыбокімі пачуццямі шкадавання і роздумам пра чалавечы лёс.

Прыкладна каля трох гадзін дня пачынаецца абед. На адной з магіл выстаўляюць прынесеныя з дому стравы: мёд, тварог, бліны, рыбу, каўбасы, мяса, яешню, а таксама пітво — гарэлку альбо віно. Калі ж у адным месцы пахавана некалькі родзічаў, то абедаюць штогадова па чарзе на кожнай магіле.

Пачынаючы рытуальную трапезу, клікаюць да сябе памёршых: "Святыя радзіцелі! Хадзіце к нам хлеба-солі кушаць, старыя і маладыя, свае і чужыя! Каму не к каму заходзіць — сядайце за наш стол!" Пры гэтым наўмысна праліваюць на магілу віно альбо гарэлку і лыжачку сыты — памінальна-абрадавай поліўкі, якую робяць з вады, мёду і дробна пакрышаных кавалачкаў хлеба ці пячэння. Затым пачынаюць выпіваць і есці самі.

За радаўнічным абедам успамінаюць добрыя справы памёршых, расказваюць пра іх жыццё, характар, звычкі, узаемаадносіны ў сваім радавым калектыве. Для малодшых членаў сям'і падобныя ўспаміны з'яўляюцца своеасаблівым урокам па гісторыі свайго радавода.

Пасля заканчэння абеду зноў звяртаюцца да нябожчыкаў: "Мае радзіцелі! Выбачайце, не дзівіце, чым багаты, тым і рады!" Рэшту памінальных страў забіраюць з сабой да дому, але, як сведчаць этнаграфічныя матэрыялы, яшчэ ў пачатку нашага стагоддзя, усё, што заставалася ад памінальнага стала, раздавалі жабракам і бедным людзям, якія прыходзілі ў гэты дзень на могілкі спяваць псалмы і маліцца Богу.

Завяршаецца дзень Радаўніцы часцей вячоркамі ці працягам святочнага стала дома ў коле сям'і альбо на агульным застоллі ў аднаго з членаў свайго роду.

Сёння некаторыя дзеянні і вераванні гэтага абрадавага свята страцілі сваё першапачатковае значэнне, але, як бы там ні было, у гэты дзень мы ідзём да магіл блізкіх нам людзей. Ідзём, каб яшчэ раз схіліць галовы над іх прахам, выказаць сваю ўдзячнасць і падзяку папярэднікам свайго роду, нашым родапачынальнікам за іх справы, іх жыццё, іх след на роднай зямлі. Помніць аб іх — наша ганаровая справа. І дзень Радаўніцы з года ў год вяртае нас у гэтую святую Памяць, якая злучае ў адзіную повязь розныя пакаленні — аджыўшыя, цяперашнія і будучыя.

Дарэчы, дзякуючы новым грамадскім зрухам у нашай рэспубліцы, з гэтага года мы атрымалі магчымасць упершыню святкаваць Радаўніцу, як афіцыйнае каляндарнае свята. Нарэшце!

Ул.Сысоў,
малодшы навуковы супрацоўнік Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН Беларусі.

# Наш чалавек у Піцеры

Жывучы ў такім інтэрнацыянальным, нават касмапалітычным горадзе, як Пецярбург, цяжка захаваць сваю нацыянальную свядомасць і зарыентаванасць некранутай. Беларусы, бадай, ілюструюць гэта як ніхто іншы. Аднак не ўсе, ёсць у Піцеры іншыя беларусы – тыя, якія стварылі Беларускае грамадска-культурнае таварыства ў Санкт-Пецярбургу і выдаюць сваю газетку беларускаю моваю, якія не саромеюцца, ідучы па Неўскім, загаварыць па-свойму. Сёння "Чырвонка" прадстаўляе аднаго з такіх – рэдактара газеты "Родзічы" Анатоля Кірвеля.

— Спадар Анатоль, што пацягнула Вас на Няву?

— Я жыў у Мінску, і неяк з'явілася патрэба з'ездзіць на Поўнач. Цягнік ішоў з перасадкай у Ленінградзе. Заставалася гадзіны тры вольнага часу, і я вырашыў прагуляцца па Неўскім праспекце. Ён мяне так моцна ўразіў, што захацелася вярнуцца ў горад яшчэ і яшчэ, ды так і застаўся. У адрозненне ад Мінска, які мяне ўсё-такі прыгнятаў і архітэктурай, і духам сваім, і настроямі, у Піцеры я адчуваў сябе вольна і раскавана. Гэты горад і ў застойныя часы быў прыцягальны для інтэлігенцыі пэўнай свабодай думак і творчасці.

— І як Вы ўладкаваліся?

— Працую на прадпрыемстве, якое дало службовае жыллё — адзін пакойчык на сям'ю...

— Відавочна, кампенсуеце недахоп жыллёвай плошчы нечым іншым, духоўным... Што даў Вам Піцер у гэтым плане?

— Асабіста для мяне гэта быў такі універсітэт, які нідзе не скончыш. Гэты горад узнімае на высокі ўзровень культуры, светаадчування, густу. Тут сабраны такі кангламерат людзей, інтэлектуальная эліта, якая глядзіць далёка наперад, і калі ты маеш дачыненне да гэтага грамадства, то расцеш як асоба... Ды і для ўсёй беларускай культуры Пецярбург зрабіў, па-мойму, нямала. Зусім просты прыклад: ці зрабіўся б Іван Луцэвіч Янкам Купалам, калі б не пажыў у Пецярбургу? Зрабіўся б, але б быў крыху іншым, магчыма, і не дасягнуў бы тых вяршынь чалавечага духу, творчага майстэрства, якія і цяпер вызначаюць яго ў беларускай літаратуры. А ці мелі б мы ў сваёй гісторыі такую асобу як Кастусь Каліноўскі, калі б не знаёмства апошняга з самымі перадавымі ідэямі свайго часу, якое было магчымым толькі ў пецярбургскім асяроддзі? А загадкавы, ні на каго не падобны Ісачоў? Мяне здзівілі яго вучнёўскія работы, якія я бачыў у Кікіных палатах у Ленінградзе. Бездапаможныя, наіўныя лініі, невыразны традыцыйны каларыт, нейкі адчай і няведанне шляху: куды, як і навошта ісці. І калі параўнаць гэта з апошнімі, сталымі палотнамі А.Ісачова, не адразу прызнаеш, што аўтар — адзін і той жа мастак. Ці быў бы Ісачоў тым майстрам, якім ён стаў, каб не паехаў у Ленінград, не атрымаў там глыток свабоды і творчую падтрымку, што ў Беларусі тады было цяжка знайсці?.. А цяперашнія мастакі— беларусы з Піцера А.Чарнякевіч, В.Сівуха — ці сталі б яны сабою, калі б жывіліся толькі тым, што дала ім Радзіма, і не прайшлі б тую, хай і балючую, але неабходную майстрам "апрацоўку" ў Піцеры...

— Што можна сказаць пра нацыянальнае аблічча Пецярбурга, гэта чыста расейскі горад?

— Нельга так сказаць. Піцер інтэрнацыянальны. І па насельніках, і па культуры, архітэктуры. Такога рускага ў чыстым выглядзе тут мала. Так што іншаземцам тут лёгка прыжывацца.

— А ці шмат у Пецярбургу беларусаў?

— Вельмі многа. Яшчэ з пятроўскіх часоў з'явілася тая ніточка паміж Беларуссю і Пецярбургам, якая ніколі не рвалася, а існавала незалежна ад войнаў і змены ўладаў. Гэты горад заўсёды быў прыцягальны для беларусаў... Супрацоўнік публічнай бібліятэкі імя Салтыкова-Шчадрына Анатоль Разумаў знайшоў і абнародаваў звесткі, пра многіх нашых суродзічаў, што ляжаць па Левашоўскіх могілках, — без перабольшання можна сказаць, што гэта другія беларускія Курапаты... Сёлета 8 мая наша суполка будзе ставіць крыж у памяць беларусаў, якія там ляжаць.

— Хоць Піцер шмат чаго Вам даў, тым не менш, узнікла неабходнасць стварыць сваю, беларускую суполку?

— Так. Бо суполка дала магчымасць адчуць сябе беларусам і не саромецца гэтага. Хоць бы проста пагаварыць па-свойму, і то не было з кім, толькі са слоўнікамі... Цяпер іншая справа. І прычым апошнім часам наша таварыства разрастаецца. Пасля таго, як выступаў у Піцеры беларускі дзіцячы калектыў "Калыханачка", і мы развесілі аб'явы па ўсім горадзе, — пачалі прыходзіць людзі, якіх мы не ведалі, яны пацягнуліся да клопатаў нашага таварыства. Думаю, што шмат чаго яшчэ зробім. Раней жа мы не былі зарэгістраваны афіцыйна, а цяпер вось падалі дакументы ў мэрыю, там да нас прыязна паставіліся, атрымаем з часам рахунак у банку. Можа і памяшканне знойдзецца. Жыццё беларусаў Пецярбурга разварушваецца.

— Парламент Беларусі не дазволіў двайное грамадзянства, як Вы адносіцеся да гэтага?

— Шкада. Асабіста я ў любым выпадку застануся беларусам, хай сабе ў мяне будзе меней магчымасцей прыехаць у Беларусь, нешта зрабіць... Што ж дрэннага, што я, жывучы ў Піцеры, буду і грамадзянінам Беларусі. Наадварот, гэта ж і гонар нейкі мне, і магчымасць маёй абароны беларускай дзяржавай у выпадку якога ўціску... Хоць уціску я пакуль і не адчуваю.

— А ці адчуваеце Вы настальгію?

— Так. Асабліва спачатку. Бывае, ідзеш і пазнаеш беларусаў па тварах, па вымаўленню... А як толькі выпадае якая нагода — абавязкова еду ў Мінск, набрацца роднага духу. Настальгія — я ёй асабліва волі не даю, трымаю ў руках, Піцер не дае расслабляцца, ён любіць моцных людзей.

Інтэрв'ю
ў Анатоля Кірвеля
ўзяў Валер Каліноўскі.

Дыялогі аб нацыянальных клопатах

# Білінгвізм патрыятызму не замінае

"Параўноўванне лінгвістычнай палітыкі асобнай краіны з лінгвістычнымі "дыпламатыямі" іншых краін еўрапейскай садружнасці заўсёды прыносіць плён".

"Кожная маленькая культура — гэта масток. З вельмі абмежаванымі памерамі. Але без яго не абысціся".




Толькі ніколі не вырашайце свае нацыянальныя праблемы такім способам...

*Чатыры з дзесяці іспанцаў жывуць ва ўмовах двухмоўя. 90 працэнтаў жыхароў правінцыі Галісія гавораць на роднай мове. У Каталоніі і на Балеарскіх астравах ад 65 да 67 працэнтаў жыхароў карыстаюцца каталанскай мовай, а ў Валенсіі амаль палова насельніцтва (48 працэнтаў) "ігнаруе" дзяржаўна-літаратурны ўзорчык іспанскай мовы — "el castellano". У краіне Баскаў "працэнтаж" яшчэ больш сціплы (23 працэнты), але ж трэба ўлічваць, што мова баскаў хутчэй бліжэйшая да грузінскай, чым да іспанскай.*

*Згадзіцеся, моўная сітуацыя ў Іспаніі нагадвае тутэйшую. Прычым тамака яна акурат такая, якую можна браць за ўзор. Вось таму мы і прапануем нашаму чытачу інтэрв'ю з кампетэнтным спецыялістам, узятае з іспанскай газеты "EL SOL". Спецыяліст гэты — сямідзесяцічатырохгадовы псіхалінгвіст Мігэль Сігуан, які каля трыццаці гадоў працаваў над праблемамі білінгвізму ў Барселонскім універсітэце і нядаўна выдаў кніжку "Іспанія шматмоўная".*

ПЫТАННЕ:

*— З Вашай кнігі вынікае, што мова не можа стаць крыніцай канфліктаў у Іспаніі.*

АДКАЗ:

– Менавіта так. Натуральна, у кожным двухмоўным грамадстве існуюць групы радыкальных нацыяналістаў, якія мяркуюць, што, калі яны не будуць весці актыўнай барацьбы за родную мову, гэтая мова праз 50 гадоў мусіць знікнуць. Існуе й супрацьлеглая пазіцыя тых, хто руліцца аб узмацненні і захаванні дзяржаўнай (літаратурнай) мовы, лічыць, што іспанская мова знаходзіцца ў занядбаным стане. У рэальнасці ж, яшчэ не адбылося аніводнага сур'ёзнага канфлікту на глебе двухмоўя. Больш таго, заканадаўчыя інстытуты правінцый вырашаюць праблемы двухмоўя адзінадушна, за выключэннем хіба толькі Наварры. Нават калі й узнаўляецца дыскусія, заканчваецца яна пагадненнем. Бо аніводная з уплывовых палітычных партый не выступіць супраць развіцця "маленькіх" моў.

ПЫТАННЕ:

*— Як будуць эвалюцыяніраваць "пірэнейскія мовы" ў бліжэйшым будучым?*

АДКАЗ:

– Гэтыя мовы не счэзнуць. Наадварот, цікавасць да іх расце, сфера ўжытку пашыраецца, але гэта не азначае, што літаратурная мова церпіць ды страчвае колькасць носьбітаў. Проста адбываецца працэс авалодвання не толькі роднай мовай, але яшчэ й дзяржаўнай, ды некалькі замежнымі. Я лічу, што еўрапейская садружнасць становіцца ўсё больш і больш плюралінгвістычнай і талерантнай у моўных дыферэнцыяцыях.

ПЫТАННЕ:

*— Мясцовае рэгіянальнае тэлебачанне — гэта галоўная альбо лепшая прычына абароны "маленькіх" моў?*

АДКАЗ:

– Усё залежыць ад канкрэтовага рэгіёна. У Каталоніі мясцовае тэлебачанне дапамагае вывучыць мясцовую мову тым, хто прыехаў жыць сюды з Мадрыда, да прыкладу. Бо кастыльскі дыялект і каталанская мова маюць надта шмат агульнага. Пра Баскскае тэлебачанне гэтага не скажаш. Тутэйшая мова зусім не падобна на "эль кастэлляна" і таму тэлебачанне не зможа вас навучыць "эўскеры". Тут тэлебачанне хутчэй выконвае задачу палітычнага прэстыжу для мясцовай мовы. У гэтым сэнсе Галісійскае тэлебачанне яшчэ больш адметнае. Таму што ў гэтай аўтаномнай вобласці родная мова заўсёды лічылася недаразвітай, вясковай. Уся Іспанія не мінала пажартаваць з галісійца, які прыязджае ў Мадрыд і з-за няведання іспанскай мовы трапляе ў камічныя сітуацыі. І вось тое, што па Галісійскім тэлебачанні апошнім часам можна ўбачыць аўтарытэтных асоб, якія карыстаюцца роднай моваю, разбівае ўсялякія стэрэатыпы і надае мове аўтарытэт, якога яна раней не мела.

ПЫТАННЕ:

*— Хіба ўсё так у білінгвізме беспраблемна?*

АДКАЗ:

– Не быць білінгвістычным немагчыма, а быць ім складана. Ваш моўны слоўнік больш шырокі, абедзве мовы вы вывучаеце адначасова. Іншая справа, адукацыйная сістэма павінна заўсёды арыентавацца на гэта. У праектах рэформы школы закладзена ідэя аб увядзенні замежнай мовы як прадмета ўжо ў пачатковых класах. Гэтаму пярэчаць тыя, хто лічыць, што спачатку трэба дзеткам вывучыць і замацаваць родную і дзяржаўную мову, а ўжо затым толькі распачынаць вывучэнне замежнай.

ПЫТАННЕ:

*— А як мы выглядаем у свеце білінгвістыкі на еўрапейскім фоне?*

АДКАЗ:

– Параўнанне з іншымі краінамі ЕС ідзе нам на карысць. У Італіі два прыклады білінгвізму: існаванне французскай мовы ў Валле дэ Аоста і нямецкай – у Альто Адыльё. Але ані фрыўланец, ані сардзінец не адчувае дзяржаўнай увагі да сваёй роднай мовы. У Вялікабрытаніі хаця тое-сёе для валійцаў і робіцца, але гэта нельга параўнаць з тым, што маюць, напрыклад, нашыя каталонцы або баскі.

ПЫТАННЕ:

*— Што, на Ваш погляд, чакаць еўрапейскім мовам ад будучыні?*

АДКАЗ:

– Па-першае, працэс еўрапейскай інтэграцыі спросціць працэс вывучэння замежных моў. Па-другое, узнікнуць моўныя праблемы эміграцкай афарбоўкі...

У скарочаным варыянце
падрыхтаваўда друку
Андрэй Смірноў.




*Паданні*

# Машэка

### Пра заснаванне Магілёва

На тым месцы, дзе цяпер Магілёў, стаяў цёмны, непраходны лес, які не прапушчаў нават сонечныя промні; ад яго і Дняпру было цесна; а Днепр у той час быў шырокі і сярдзіты. У тым лесе жыў страшны разбойнік, якога звалі Машэкам. У яго была такая вялікая сіла, што адною рукою спыняў экіпаж з васьмерыком коней на ўсім скаку, ухапіўшыся за кола, і адным разам вырываў з карэннем высокія сосны; а хадзіў ён у мядзведжай шкуры, поўсцю ўверх. Не такі тады быў народ, як цяпер, многа было асілкаў; але ўсе дрыжалі перад Машэкам, і пяць дзесяткаў нічога не змаглі зрабіць супраць аднаго. Машэка наводзіў жах на ўсе навакольныя селішчы. Нягледзячы на тое, што людзі жылі тады вялікімі сёламі, ён не баючыся прыходзіў у кожнае сяло і браў, што яму трэба было: усюды самі адчынялі яму вароты, абы толькі пакінуў душу ў целе. Не раз выходзілі супраць Машэкі цэлымі палкамі; але ён жыў у такой непраходнай пушчы, што ніхто не знаходзіў не толькі яго бярлогі, але і дарогі назад, і ўсе або паміралі з голаду, або гінулі ад удару кісцянём. Але і на Машэку прыйшла пагібель. Чаго не маглі зрабіць сотні людзей, тое зрабіла адна жанчына.

Раз па дарозе праз лес ехала плеценая брычка, запрэжаная васьмерыком коней. У ёй сядзеў малады мужчына з прыгажуняй жанчынай. Тут з'явіўся Машэка з-за агромністай елкі; мігам спыніў брычку і ўраз забіў кучара, што той не паспеў нават азірнуцца. А той, што сядзеў у брычцы, бачыць, што тут кепскія жарты, выхапіў шаблю і з усяго размаху ўдарыў Машэку па галаве, але шабля зламалася аб стальное шчацінне, а мужчына прырос да свайго месца ад аднаго ўдару разбойніка. Але, глянуўшы на жанчыну, Машэка стаў як укапаны: ён пазнаў у ёй старую знаёмую; гэта яна, адхіліўшы яго любоў, прымусіла пасябраваць з буйным ветрам.

Ачуняўшы пасля здзіўлення, Машэка ўзяў у свае лапы паўмёртвую ад перапуду прыгажуню і аднёс у сваю бярлогу. Тут яна апрытомнела, адразу зразумела сваё становішча і склала план, як загубіць разбойніка. Прыкінулася лагоднаю, паслухмянаю, і разбойнік зусім ёй даверыўся. І вось раз ён бесклапотна заснуў пры ёй моцным сном; яна асцярожна дастала вялізны нож – і кроў палілася ракой з разрэзанага горла разбойніка. Учыніўшы гэту справу, прыгажуня неяк выйшла на дарогу, прыйшла да сваіх і паказала ім праклятае месца, дзе з вялікім ганьбаваннем закапалі таго людаеда, і назвалі тое месца Магілаю льва.

Недалёка ад таго месца знайшлі высокі бугор або гару, якая была ўся абліта крывёю і ўсыпана касцямі нявінных ахвяр зверстваў Машэкі. Гэта гара і цяпер называецца Машэкаўскай, ці Мышакоўскай, на ёй знаходзяцца гарадскія могілкі.

Пасля Машэкі тут жыло яшчэ многа разбойнікаў, для знішчэння якіх уладары гэтага краю назначылі гэта месца для ссылкі злачынцаў.

Ссыльныя памалу высеклі лес і прагналі разбойнікаў. Пазней на тым месцы заснавалі горад, які ці ад магіл забітых разбойнікамі людзей, ці ад ..ілы льва-Машэкі названы Магілёвам.

# МАЙ



## 1. Пятніца.

ВІНШУЕМ СА СВЯТАМ!

Невычэрпная маляўнічая палітра мая. Нават у хмарныя дні радуюць нас яркія фарбы вясны — шматколернасць разнатраўя, свежая зеляніна бярозы, квецень садоў...

Прыкладна ў сярэдзіне месяца зацвітае чаромха. Народны каляндар сведчыць: "Цвіце чаромха — холад прыносіць". З'яўленне яе кіпучай белай квецені звычайна супадае з надыходам апошніх халадоў. А вось бэз і рабіна любяць цяпло. Яны пачынаюць цвісці дзён на восем пазней. У гэты ж час э'яўляюцца ў лесе снежна-белыя званочкі ландышаў.

## 5. Аўторак.

Дзень друку.

РАДАУНІЦА.

Вясна... Надыход цёплых, доўгіх сонечных дзён. Абуджэнне прыроды, абуджэнне ў душы чалавека новых мар, спадзяванняў, надзей. Як у такую пару нашы продкі маглі не ўспомніць сваіх нябожчыкаў? Не папрасіць у іх дапамогі, заступніцтва, плёну, добрага ўраджаю, здароўя? Калектыўны розум паступова выпрацаваў цэлы рытуал памінання памерлых са сваімі сімвалічнымі, абрадавымі дзеяннямі, які атрымаў назву "радаўніца" (радуніца, радуніцкія дзяды) і арганічна ўвайшоў у жыццё селяніна. У аўторак пасля велікоднага тыдня ўсе ішлі зранку ў царкву, дзе паміналі сваіх блізкіх, а пасля — на могілкі, кожная сям'я — да сваіх магіл, якія напярэдадні або ў той жа дзень старанна прыбіраліся. Па-святочнаму апранутыя людзі, старыя, маладыя, дзеці, маўкліва рассаджваліся вакол насыпу, дзе гаспадыняй на белым абрусе выстаўлены шматлікія стравы: фарбаваныя яйкі, мяса, сыр, куцця, хлеб, гарэлка. Усе гэтыя стравы ў першую чаргу адкладваюцца, адліваюцца для нябожчыкаў, каб паказаць, што іх памятаюць і шануюць у сям'і. Трапеза цягнулася даволі доўга, успаміналі памерлых родзічаў, на свежых магілах галасілі, пазней падыходзілі жабракі, якім раздавалі рэшткі страў, бо верылі, што ўсё перададзенае ім так ці інакш дойдзе да нябожчыкаў на тым свеце. Святкаванне радаўніцы заканчвалася вечарам у хаце, некаторыя ішлі ў карчму. У гэты дзень лічылася непажаданым штонебудзь сеяць або садзіць.

На Палессі ішлі памінаць нябожчыкаў у чацвер велікоднага тыдня, так званы "наўскі вялікдзень" або "вялікдзень мэрлых". На ўсходзе Беларусі радаўніца падмянялася летнімі (траецкімі) дзядамі. Праваслаўная царква звязвала з народным абрадам радаўніцы свята ўваскрэсення Хрыстова.

Радаўніца ўзнікла яшчэ ў эпоху язычніцтва, вядома ўсім усходнім славянам, цягнулася праз стагоддзі і дажыла да нашых дзён, бо гэты дзень памінання памерлых патрэбен быў ва ўсе часы перш за ўсё жывым.

Таццяна КУХАРОНАК.

## 6. Серада.

ЮР'Я.

Светлае веснавое свята... У гэты дзень адбываўся першы выган свойскай жывёлы.

## 7. Чацвер.

ДЗЕНЬ РАДЫЁ, СВЯТА РАБОТНІКАЎ УСІХ ГАЛІН СУВЯЗІ.

## 9. Субота.

ВІНШУЕМ З ДНЁМ ПЕРАМОГІ.

## 15. Пятніца.

110 гадоў з дня нараджэння У.І.Галубка (сапр.Голуб) (1882—1937), беларускага пісьменніка, рэжысёра, акцёра, тэатральнага дзеяча, мастака, народнага артыста БССР.

80 гадоў з дня нараджэння (1912) Анатоля Іверса (сапр.Іван Дарафеевіч Міско), беларускага паэта.

## 18. Панядзелак.

МІЖНАРОДНЫ ДЗЕНЬ МУЗЕЯ.

## 20. Серада.

90 гадоў з дня нараджэння Язэпа Пушчы (І.П.Плашчынскі) (1902—1964), беларускага паэта.

## 31. Нядзеля.

100 гадоў з дня нараджэння К.Г.Паустоўскага (1892—1968), рускага пісьменніка.

Старадаўні сродак ад камароў. Жменю сечаных каранёў пырніку заліце вадой (1,5 л), закіпяціце і дайце адстаяцца (паўтарыце тры разы, пакуль адвар не атрымаецца светла-жоўтага колеру). Ні адзін камар не сядзе на твар і рукі, якія вы памылі гэтым адварам.

*На кніжных паліцах*

## Хто абароніць курапатку?

Калі да чытача прыйшлі са сваімі творамі Юры Станкевіч, Вячаслаў Лапцік, здалося мне, прабіла, прарвала плаціну найвелізарнейшай абыякавасці, няўвагі да тэмы прыроды. Але, прачытаўшы новае, толькі што створанае, захацелася зірнуць у дзень учарашні. Так адбылася мая сустрэча з кнігамі пісьменніка-прыродазнаўцы Міколы Цэлеша. Выдаваліся яны ў 1931–1939 гадах і толькі зусім нядаўна вернуты са "спецхрана" –"Апавяданні паляўнічага", "Са стрэльбай і сабакам", "Буська", "Знаходка", два выданні аповесці "Курылка". А першыя сустрэчы з чытачом адбыліся ў Міколы Цэлеша на старонках часопіса "Паляўнічы Беларусі". У гэтым часопісе ён друкаваў не толькі апавяданні, але і нарысы, публіцыстычныя артыкулы. Назвы гавораць самі за сябе: "У фонд аховы шэрай курапаткі", "У абарону шэрай курапаткі" і інш.

Праўда, шмат чаго, напісанага Цэлешам, носіць даволі прымітыўны характар падладжвання пад тагачасныя палітычныя рэаліі. І ўсё ж большасць яго твораў (а з далейшым лёсам, пасля 1940 года, на жаль, я не знаёмы) варта і сёння чытацкай увагі. Асабліва цікавыя кнігі яго для дзяцей. Нездарма ў трыццатыя гады апавяданні Міколы Цэлеша часта друкаваліся ў часопісе "Іскры Ільіча" (папярэднік сённяшняй "Бярозкі").

Аповесць "Буська" – найбольш адметны твор. Задоўга да "Белага Біма..." Гаўрыіла Траяпольскага Мікола Цэлеш стварыў вобраз сабакі Буські – вернага сябра. Дарэчы, аповесць была заўважана тагачаснай крытыкай. І з рэцэнзіяй на "Буську" выступіў у "Чырвонай змене" адзін з вядомых літаратараў.

Думаецца, вярнутая з забыцця, спадчына Міколы Цэлеша стане для юнага чытача добрым падручнікам выхавання пашаны да прыроды. А чаму б нашым паважаным выдавецтвам ды часопісам не ўспомніць сёння пра Міколу Цэлеша? Некаму ж трэба і курапатку абараніць.

Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.



**10 мая нашаму пастаяннаму аўтару паэту Сяргею ПАНІЗНІКУ спаўняецца 50 гадоў. "Чырвоная змена" шчыра віншуе яго з юбілеем, жадае далейшага плёну ў творчасці, маладога гарэння.**

**Прапануем падборку вершаў паэта.**

## Мая хрэсніца

Гэта было амаль 30 гадоў назад. Я — нядаўні выпускнік Магілёўскага медыцынскага вучылішча — трапіў служыць фельчарам артдывізіёна ў знакамітую Рагачоўскую імя Вярхоўнага Савета нашай рэспублікі дывізію. З Уручча недалёка было і да Мінска. А ў "Чырвонай змене" тады выходзіў штомесячны літаратурны выпуск "Гарызонт". І вось мае сяржанцкія вершы трапілі на вока Сцяпану Гаўрусёву (вечная яму памяць). Ён і блаславіў мяне.

Як хораша, што "Чырвоная змена" і па сённяшні дзень застаецца хрэсніцай для новых маладых спадкаемцаў на літаратурнай раллі! І так хочацца, каб таленавітая отмаладзь пераступала нашы межы, абнадзейвала ўжо Незалежную Беларусь.

Сяргей ПАНІЗЬНІК

* * *

Чытаю ліст — і чую голас твой
У рокаце вясенняй навальніцы.
Мне б да цябе дайсці і прытуліцца,
Схіліцца бедалашнай галавой
І папрасіць:
— Здымі мае грахі
З усіх тых паваротак, раздарожжаў.
Скажы, наколькі я
ўжо благі;
Скажы, наколькі я яшчэ харошы...

## На цыферблаце ночы

Ноч веснавая... Цёплая і ціхая,
Водарная кронай маладой...
Ты паслухай, як гадзіннік цікае
З цыферблатам — поўняй маладой!

Ты скажы, з якою заўтра доляю
Сэрца ад Цябе я адлучу?
І пакуль дзве цені пад таполяю,—
З лёсам развітацца не хачу.

Стануць ночы горасныя ў шэрагі...
Толькі ж будзе суцяшэнне нам:
Не бываюць ночы траўня шэрымі
Закаханым, кветкам, салаўям.

Цёплая... Утульная ноч. Ціхая...
І калі сустрэнемся з Табой,—
Хай да золку нам гадзіннік цікае
З цыферблатам — поўняй залатой.

## Лесвіцы да Месяца

Дай мне бусечку, басячку:
У анёла вазьму я лесвіцы:
З прахалоднай шчакою Месяца
Параўнаю Тваю шчаку.

Басанож, басанож — (як нож) —
Толькі блісну між аблачынамі.
Ты — харошая! Я — не горш
Над прасторамі немагчымымі.

Толькі б лесвіцы не сплылі...
Паціхонечку прызямляюся.
Хто не любіць сваёй зямлі,
Прападае. А я — з'яўляюся:
басанож, басанож — як дождж —
Да Цябе па прыступках лесвіцы...
Толькі людзі цаною ў грош
Па блісучым гуляюць Месяцы.

Недавер паміж намі змецены!
Дай мне бусечку, басячку...
А на месячным касячку —
Толькі лесвіц маіх адмеціны.

## Сцэп

Смяюся з басанога
Вясёлага прадвесня...
Ад матчынага полага
Што засталося?
ПЕСНЯ.
Шугалі дні... Ды розныя:
Той кат быў, а той — цесля...
З каханейка ўзнёслага
Што засталося?
ПЕСНЯ.
Было: шляхі цвярозыя
Пераступала плесня...
Надзеі нашы з крозамі
ўберагала
ПЕСНЯ.
Мы, змучаныя кручамі,
Ідзём усё балесней...
А кім быць хочам? Вучнямі?
Патрэбна сэрцу
ПЕСНЯ.
Яна адна нятленніца,
Хоць ты ад крыку трэсні.
Загубленае вернецца,
калі ўспомніць
ПЕСНЯ!



## Роднае слова

Чацвёрты нумар часопіса "Роднае слова" ("Беларуская мова і літаратура ў школе") працягвае знаёміць чытачоў, і ў першую чаргу настаўнікаў, з тымі аўтарамі і творамі, якія будуць вывучацца ў новым навучальным годзе. На гэты раз падаецца варыянт вывучэння ў класе апавядання Максіма Гарэцкага "Роднае карэнне", друкуюцца вершы Уладзіміра Жылкі, спіс літаратуры пра яго, а таксама артыкул Ірыны Багдановіч "Паэзія хараства і змагання", у якім аналізуецца творчасць гэтага паэта. Пра некаторыя асаблівасці школьных праграмаў па літаратуры ў новым навучальным годзе ідзе гаворка ў артыкуле, якім адкрываецца часопіс.

У нататках Алеся Бельскага пра маладую беларускую прозу зроблены агляд творчасці У.Рубанава, У.Ягоўдзіка, Х.Лялько, А.Наварыча. Змешчаны партрэты гэтых таленавітых празаікаў.

З артыкулаў мовазнаўчага характару адзначым нататку навукоўца Паўла Сцяцко "Пра слова "дзякуй", а таксама даследванне Івана Сапуты пра аўтарства кірыліцы і глаголіцы.

Часопіс змяшчае матэрыялы ў дапамогу арганізатарам беларускамоўных летнікоў, друкуе праціяг нататкаў пра Купалаўскія мясціны, адзначае 400-годдзе з дня нараджэння вядомага чэшскага педагога Яна Амоса Коменскага.

Падрыхтаваў
Іван Ждановіч,
супрацоўнік
рэдакцыі часопіса.



КНІГАРНЯ

## "Вучыцца гаварыць па-беларуску..."

Выдавецтва "Вышэйшая школа" выпусціла ў свет першы ў лексікаграфічнай практыцы беларускай мовазнаўчай навукі тэматычны "Русско-белорусский разговорник" (Мн., 1991), аўтарам і ўкладальнікам якога з'яўляецца прафесар Мінскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута замежных моў, доктар філалагічных навук А.Я.Міхневіч.

Як адзначаецца ў прадмове да кнігі, гэта — дапаможнік агульнага тыпу, які ахоплівае неспецыялізаваныя тэмы паўсядзённага дыялога і адпаведную ім лексіку. Асноўная яго мэта — аказаць дапамогу рускамоўным жыхарам і гасцям рэспублікі, усім, хто імкнецца авалодаць мовай, набыць ці ўдасканаліць навыкі беларускай вусна-гутарковай і літаратурна-пісьмовай мовы. З гэтай мэтай у кнігу ўключаны моўныя матэрыялы з найбольш характэрных сфер зносін, у тым ліку размоўныя тэмы, жывыя канструкцыі і выразы, паўсядзённая бытавая лексіка, беларускія прыказкі, прымаўкі і выслоўі, супастаўляльныя лексіка-граматычныя заметкі, дыялогі з мастацкай літаратуры і фальклору.

Структура кнігі — стройная, лагічная. Так, усе размоўныя канструкцыі аб'яднаны ў адзінаццаць тэматычных раздзелаў.

У супастаўляльных заметках (нататках) вядзецца размова пра адметныя рысы беларускай мовы ў параўнанні з рускай. Пры гэтым, як падкрэслівае аўтар, чытанне іх не вымагае спецыяльных лінгвістычных ведаў. Яны грунтуюцца на багатым моўным матэрыяле, які запаўняе і пашырае размоўныя тэмы. Мэта гэтых заметак — даць чытачу ўяўленне аб правілах беларускага вымаўлення, формазмяненні слоў і іх спалучальнасці.

У раздзеле аб літаратурных і фальклорных дыялогах шырока прадстаўлена жывая беларуская мова ва ўсёй разнастайнасці яе тэм, жанраў, сітуацый зносін, субяседнікаў і ва ўсім багацці стылістыкі і экспрэсіі размоўнай стыхіі.

Надзвычай важнымі і актуальнымі з'яўляюцца пытанні адносін і стаўлення аўтара да формы і метадаў, саміх прыёмаў і прынцыпаў моўнай перадачы адпаведных тэкстаў. І тут, у гэтых пытаннях, мусім цалкам пагадзіцца з аўтарам. Прымаючы пад увагу лексічнае багацце і сінтаксічную гібкасць абедзвюх моў, аўтар дапаможніка прыходзіць да адзіна правільных высноў адносна таго, што нельга і не трэба патрабаваць ад эквівалентных рэплік пасловнага супадзення і лексіка-граматычнай тоеснасці іх тэкстаў. "Патрэбна вучыцца думаць і гаварыць па-беларуску, а не перакладаць у працэсе маўлення з рускай,— сцвярджае аўтар і працягвае:— Стыхія чалавечай мовы бязмежная. Таму аўтар не мог і не імкнуўся адлюстраваць у размоўніку ўсе магчымыя варыянты лексіка-сінтаксічнага афармлення думкі ў рускай і беларускай мовах. Фіксуюцца тыповыя звароты і найбольш характэрныя адрозненні паміж мовамі. Чытачу даецца магчымасць самому будаваць новыя канструкцыі, апіраючыся на звароты, прыведзеныя ў размоўніку".

Няма сумнення ў тым, што руска-беларускі размоўнік, складзены А.Я.Міхневічам, акажа вялікую дапамогу навучэнцам беларускамоўных курсаў і гурткоў школ, дзяржаўных устаноў і арганізацый, саслужыць добрую службу ў рэалізацыі Закона аб дзяржаўнасці беларускай мовы ў рэспубліцы.

Аркадзь НАРКЕВІЧ,
прафесар
Белдзяржуніверсітэта,
доктар
філалагічных навук.

*Беларускія народныя казкі*

## Каток — залаты лабок

Жыў дзед з бабай. Былі яны вельмі бедныя: ні насіць няма чаго, ні варыць.

Вось баба і кажа дзеду:

— Вазьмі, дзеду, тапарок, паедзь у лясок, ссячы дубок, завязі на рынак, прадай і купі гарчык мукі. Спячом хлеб.

Сабраўся дзед, паехаў у лясок, пачаў секчы дубок. Выскачыў з дуба каток — залаты лабок, залатое вушка, срэбранае вушка, залатая шарсцінка, срэбраная шарсцінка, залатая лапка, срэбраная лапка.

— Дзед, дзед, што табе трэба?

— Ды вось, каточак, мой галубочак, паслала мяне баба ссекчы дубок, завезці на рынак, прадаць і купіць гарчык мукі на хлеб.

— Едзь, дзед, дахаты: будзе ў вас мука!

Паехаў дзед дахаты, ажно ў яго мукі повен засек!

Спякла баба хлеб, сама наелася, дзеда накарміла ды кажа яму:



## Немаўля

— Не шкодзіла б цяпер і заціркі наварыць. Ды солі няма. Вазьмі, дзед, тапарок, паедзь у лясок, стукні ў дубок, ці не выскачыць каток: папрасі ў яго солі.

Узяў дзед тапарок, паехаў у лясок, стук у дубок!.. Выскачыў каток — залаты лабок, залатое вушка, срэбранае вушка, залатая шарсцінка, срэбраная шарсцінка, залатая лапка, срэбраная лапка.

— Дзед, дзед, што табе трэба?

— Ды вось, каточак, мой галубочак: хлеб ёсць — солі няма!

— Едзь, дзед, дахаты: будзе соль!

Паехаў дзед дахаты, ажно ў яго солі цэлая дзежка стаіць!

Наварыла баба заціркі, сама добра наелася, дзеда накарміла ды кажа яму:

— Не шкодзіла б цяпер і капусты паспытаць. Вастры, дзеду, тапарок, едзь у лясок, стукні ў дубок, ці не выскачыць каток — залаты лабок: папрасі ў яго капусты.

Навастрыў дзед тапарок, паехаў у лясок, стук у дубок!.. Выскачыў каток — залаты лабок, залатое вушка, срэбранае вушка, залатая шарсцінка, срэбраная шарсцінка, залатая лапка, срэбраная лапка.

— Дзед, дзед, што табе трэба?

— Ды вось, каточак, мой галубочак: хлеб ёсць, соль ёсць — капусты няма!

— Едзь, дзед, дахаты: будзе капуста!

Паехаў дзед дахаты, а ў яго капусты поўная кадушка!

Баба кажа:

— Ай, як добра! Вось каб цяпер яшчэ сальца... Мы б з табою капусты наварылі, сальцам закрасілі б. Не палянуйся, дзеду: вазьмі тапарок, паедзь у лясок, стукні ў дубок, ці не выскачыць каток — залаты лабок: папрасі ў яго сальца.

Узяў дзед тапарок, паехаў у лясок, стук у дубок!.. Выскачыў каток, залаты лабок, залатое вушка, срэбранае вушка, залатая шарсцінка, срэбраная шарсцінка, залатая лапка, срэбраная лапка.

— Дзед, дзед, што табе трэба?

— Ды вось, каточак, мой галубочак, просіць баба яшчэ сальца да капусты.

— Добра, дзед, едзь да хаты: будзе сала!

Прыязджае дзед дахаты, а ў яго сала цэлы кубелец!

Рады дзед, рада баба. Сталі яны жыць ды пажываць, дзецям казкі казаць.

І цяпер жывуць, хлеб жуюць, капустаю з салам закусваюць.

Вось вам казка, а мне абаранкаў вязка.



Сярэдневяковае паняцце?

# Рыцары — у дэфіцыце...

А ці ёсць у наш час рыцары? Прадбачу адразу ўсмешку на вуснах у хлопцаў і нейкую задумлівасць на тварах дзяўчат. "Якія, да д'ябла, рыцары, – скажа хтосьці, – гэта ў наш час!". Але ўсё ж, няўжо сапраўды рыцары перавяліся? Няўжо не засталося больш ніводнага? Вось неяк адбылася ў мяне размова на гэтую тэму з сяброўкай. Спрачаліся, спрачаліся мы з ёй: сяброўка кажа, што рыцараў даўно ўжо няма, я ж – наадварот. Вось і вырашылі мы ісці ў заклад. Паабяцала, што абавязкова знайду сапраўднага рыцара. Можа, у нашай жыццёвай мітусні і захаваўся які-небудзь? А раптам сяброўка мела рацыю, сцвярджаючы, што рыцара зараз днём з агнём не адшукаеш? Тады, атрымліваецца, я прайграла заклад! Ну, не. Прайграваць я не вельмі люблю: прыйдзецца ісці шукаць. Але вось пытанне: дзе? Не буду ж я, сапраўды, на вуліцы лавіць хлопцаў са сваім наіўным пытаннем: "Вы выпадкова не рыцар?". Мяне могуць прыняць за вар'ятку. І накіравалася я... прама ў інстытут фізкультуры. Дзе ж, як не там, быць рыцарам? Да гэтага адбыўся адзін выпадак, пасля якога я не сумнявалася ў выбары адраса. Калісьці вечарам давялося мне праходзіць міма вышэйназванай навуковай установы, і вось якую, скажам прама, непрыемную карціну ўбачыла: адзін мужчына, што выскачыў на хаду з машыны, пачаў біць нейкую дзяўчыну, якая накіроўвалася ў бок інстытута (відавочна, дзяўчына чымсьці перашкодзіла яму). І праходзіўшы паблізу студэнт адразу ж абараніў яе. Невядома, чым бы гэта ўсё скончылася, калі б не той хлопец. І вось я з журналісцкім "Рэпарцёрам" і вялікімі надзеямі знайсці рыцара ў інстытуце фізічнай культуры. Вакол мяне сабраліся некалькі студэнтаў 4-га і 2-га курсаў (у асноўным, з факультэта АФК). Даведаўшыся аб мэце майго наведвання, хлопцы чамусьці сумеліся, а дзяўчаты палічылі гэтае пытанне вельмі цікавым і актуальным. Ой, праўда, не ведаю, ці ўдалося мне выйграць заклад. Зрэшты, мяркуйце самі. Скажу толькі, што рыцара адшукаць аказалася не вельмі проста. Вось колькі рэплік студэнтаў з гэтай нагоды.

– Хлопцы, скажыце, ці ёсць у вашым інстытуце рыцары? І наогул, што б вы ўключылі ў паняцце "рыцарства"?

*Сяргей, 2-гі курс:*

– Ну, наконт інстытута не ведаю, але сам сябе я рыцарам не лічу, калі ўкладваць у гэтае паняцце цэлы набор: перш за ўсё, трэба добра, па-джэнтльменску адносіцца да дзяўчат, быць ветлівым, мець штосьці з тых былых вартасцей былых рыцараў.

*Аляксей, 4-ы курс:*

– Спачатку трэба вызначыць, што такое рыцар. Гэта ўсё роўна, што спытаць, што такое шчасце. Гэтага ніхто не ведае. Няма такога вызначэння. Таму, наколькі я разумею, рыцары – гэта паняцце няпэўнае. Карацей, я сябе рыцарам лічу напалову: ні больш, ні менш.

Паслухаўшы гэтых рабят, я падумала, што нейкія рыцары ў наш час пайшлі палавінчатыя... І тут я вырашыла зрабіць ход канём.

– А хто лічыць сябе сапраўдным рыцарам?

*Яшчэ адзін Аляксей, 4-ы курс:*

– Калі, скажам, раней слова "рыцар" вызначалася даволі проста: уменне махаць мячом, абараняючы даму свайго сэрца, дык зараз гэта паняцце, як і ўсё ў нашым жыцці, крыху мяняецца. Я разумею слова "рыцар" як слова "мужчына". І тут, канешне, можна назваць дзве галоўныя яго якасці – уменне кахаць і ненавідзець. Ну і, напэўна, усё тое, што неабходна ў нашым сённяшнім няпростым жыцці (а для гэтага зараз трэба нямала), да такіх простых і банальных рэчаў, як гавораць амерыканцы "make money", – "рабіць грошы". Вось таму складана вызначыць, што такое рыцар зараз, у цяперашні момант. Такіх сітуацый, напрыклад, як абарона на вуліцы дзяўчыны, становіцца ўсё менш і менш.

Вырашыла спытацца ў дзяўчат, як яны разумеюць слова "рыцар" і чаго чакаюць ад гэтых рыцараў.

– Чаго? Ну, раней, напрыклад, у сярэднія вякі, рыцарам трэба было валодаць зброяй, хутка бегаць, плаваць, г.зн. валодаць тымі фізічнымі якасцямі, якімі павінен быў валодаць у той час кожны мужчына. Думаю, зараз такое пытанне вельмі цікавае. Я мяркую, што рыцар – гэта мужчына, які павінен валодаць элементарнымі добрымі манерамі, галантнасцю, быць добрым кавалерам.

– Ці ёсць іншыя меркаванні на гэты конт?

– Вось тут закранулі часы сярэдневечча. У прыватнасці, гаварылася аб тым, што рыцар павінен фехтаваць, добра ездзіць. У наш час, я думаю, такія паняцці памяняліся на такія, як уменне рабіць грошы, мець машыну і ўсё астатняе, г.зн. быць забяспечаным, забяспечыць блізкага чалавека і адносіцца да навакольных з увагай...

Мяркуючы па рэпліках дзяўчат і хлопцаў, у асноўным слова "рыцар" засталося паняццем сярэдневяковым. Усе адразу пачынаюць апісваць рыцара са слоў: "... а вось у сярэднія вякі...". Ну, гэта зразумела. Відаць, ніхто з гэтых рабят не сустракаў у наш час сапраўднага рыцара. А як жа мой заклад? Я ўжо проста страціла надзею знайсці сапраўднага рыцара. З надзеяй звяртаюся да прывабнага хлопца з 2-га курса – Леаніда:

– Мне здаецца, што ўсё-такі гэта актуальна. Нават для нашага часу, бо само паняцце "рыцар" як і ў тыя мінулыя часы, так і зараз павінна мець на ўвазе перш за ўсё такія маральныя каштоўнасці, як сумленне, гонар, высакароднасць. І, на жаль, я думаю, гэтыя паняцці трансфармаваліся за стагоддзі. Мне здаецца, у наш час ужо можна лічыць рыцарам чалавека, які валодае хаця б нейкай элементарнай культурай паводзін, элементарнай прыстойнасцю. У тыя часы нават касы позірк мог каштаваць крыўдзіцелю жыцця. А зараз мы прывыклі да абразы ў крамах, у транспарце... Я лічу, што рыцар перш за ўсё – гэта культурны чалавек.

– А сам сябе ты рыцарам не лічыш?

– Ну, гэта складанае пытанне, ведаеш... Лягчэй разважаць пра іншых, а пра сябе – гэта, з аднаго боку, небяспечна: можна паказацца нахабнікам і ў той жа час не вельмі сціплым. Я не магу сказаць, што я ў поўным сэнсе рыцар. Я наогул вельмі мала сустракаў людзей, якіх можна назваць культурнымі. Гэта вялікая навука – культура.

Такім чынам, на гэтым акордзе я і скончыла сваё апытанне. Высветлілася, што рыцары – палавінчатыя, паняцце "рыцар" – сярэдневяковае, мала хто сустракаўся з сапраўднымі рыцарамі, ды і самі хлопцы, якіх я апытала, баяцца, а дакладней, не рашаюцца назваць сябе рыцарамі. Хаця рыцар напалову – гэта ўжо нешта. А дзе ўсё ж сапраўдныя рыцары? Так, атрымліваецца, што гэта своеасаблівы чарговы дэфіцыт. Рыцараў – адзінкі (а ўсім вядома, што "адзін у полі не воін"). Дарэчы, на развітанне хлопцы пажадалі даведацца аб маім меркаванні наконт рыцарства. Прызнаюся, спачатку разгубілася, а потым выказала і свой пункт гледжання. Я згодна, у прынцыпе, з Лёнем у тым, што рыцар – гэта чалавек перш за ўсё высокай культуры. І, канешне ж, той, які ўмее кахаць і ненавідзець, разумець і дараваць, у любую хвіліну гатовы дапамагчы, абараніць ад непрыемнасцей...

Агу, рыцары! Дзе вы?

Юля САКАЛОВА.

*Крах ілюзій*

## Чып і Дэйл на вуліцы Кірава

Памятаеце, раней крычалі: "Усё лепшае — дзецям!" Аднак з таго лепшага дзецям даставалася хіба светлая мара пра камуністычную будучыню. Ілюзіі мінулі. Цяперашняе (паводле падлікаў навукоўцаў, дзвесце восемдзесят першае) пакаленне нарэшце пачынае разумець, што "выратаванне тапельцаў — справа рук саміх тапельцаў". Калі ў маім дзяцінстве на пытанне: кім хочаш быць?— звычайна, адказвалі:"Ка-сма-наў-там!!!", то зараз успамінаюць прадаўцоў, кааператараў, дырэктараў сумесных прадпрыемстваў. Але не толькі. Цяперашнія цінэйджары цікавяцца псіхалогіяй, у якой цяжка знайсці рухавік прагматызму.

Гутарым з Вольгай Мікалаеўнай Лыгач, кіраўніком гуртка юных псіхолагаў, аднаго з першых на тэрыторыі былога СССР:

— Працуем пад дахам рэспубліканскага Палаца піянераў, што па вуліцы Кірава ў Мінску. Спачатку было трыццаць чалавек. Потым большасць хлопцаў "адсеялася" на каратэ. Але мы не сумуем. Найбольш цікава з маленькімі. Яны на першых занятках папрасілі мяне:"Вольга Мікалаеўна, навучыце нас гіпнозу". Вось так — адразу ў кашпіроўскія... Жарты жартамі, але ў мяне займалася адна дзяўчынка, якая вельмі паддаецца ўздзеянню. Аднойчы я праводзіла звычайны тэст, пыталася ў гуртКоўцаў, што такое чалавек? Зразумела, адказы былі розныя, у тым ліку і слушныя, але мяне вельмі ўразіла, што Волька адказала менавіта так, як я думала: "Чалавек — гэта бясконцая магчымасць". Помніцца, гэта выказванне кагосьці з вялікіх, але маленькая дзяўчынка прачытаць ды сфармуляваць такое сама, вядома, не магла. Мы праверылі яе экстрасенсорныя здольнасці. У Волькі яны аказаліся вельмі моцнымі... Гіпноз, безумоўна, цікава. Аднак мы не замыкаемся толькі на ім. Нас цікавяць адносіны паміж людзьмі. Гэта бясконцы акіян, але мы карыстаемся лоцыяй Джона Уотсана. "Прабілі" сабе дзіцячы "тэлефон даверу". Па існуючых нормах працаваць псіхолагамі юнакам забаронена. А дзеці па розных прычынах баяцца звяртацца да дарослых. На іх думку, усе дарослыя аднолькавыя і не зразумеюць іхнія беды і нягоды.

— А каму гэты тэлефон больш патрэбен — гуртКоўцам ці тым самым дзецям?

— "Вопрос, конечно, интересный!" Аднак, цяжка адказаць на яго адназначна. Я ўжо казала, чаму дзеці амаль не карыстаюцца дарослым "тэлефонам даверу". Адначасова і гурток з тэорыі "дарос" да практыкі. Так што праца "на тэлефоне" як нельга дарэчы. Але ж я не магу камусьці дапамагчы, калі не бачу яго самога альбо не чую яго. Таму наша мара — пакойчык з тэлефонам. Ён бы працаваў з 15 да 21 гадзіны і прынёс пэўныя здабыткі... Але ў нас пакуль — толькі нумар...

Неяк сустрэў ля крамы дзяўчынку. Плакала. Міжволі спыніўся:

— Што здарылася?

— Купоны згубіла... Усе, што былі, што мама дала...

Дзеці зараз хутка вырастаюць, сталеюць, старэюць. Час такі. Вольга Мікалаеўна праўду казала: цяжка бывае з імі знайсці кантакт. Пад час іх клопаты здаюцца нам дробязнымі. Дый не да іх — свой вольны час бавім у чэргах, там і выхоўваем дзяцей.

Калі зазвоніць "тэлефон даверу"? Хто, акрамя Чыпа і Дэйла, паспяшаецца на дапамогу нашым дзецям? Можа, яны самі?..

Паўлюк Быкоўскі.



# АЛЕРГІЯ НА МУЖЧЫН

"Вось ужо 2 гады, як адчула сябе чалавекам, асобай. Да мяне вярнуўся страчаны спакой, ураўнаважанасць, пачуццё ўласнай годнасці. Я з радасцю бягу на працу, бо яна для мяне зараз самае галоўнае. Я думаю аб кар'еры, аб павазе калег, аб сваіх бацьках. Вечарамі я чытаю кнігі, у выхадныя хаджу ў бібліятэку і з асалодай аддаюся спакою і цішыні. Я не падыходжу да тэлефона, для гасцей мяне ніколі няма дома, я не знаёмлюся з мужчынамі. Я свабодная ад сваёй былой маніі. Засталіся ў мінулым візіты да псіхолага, званкі па "тэлефоне даверу", бяссонныя ночы. Я вырвалася з замкнёнага кола, у якім пакутавала дзесяць гадоў.

Спачатку я была звычайнай дзяўчынкай, сціплай і разумненькай. Вучылася ў БДУ на філфаку. Мне падабалася вучоба, сяброўскія адносіны з хлопцамі, інтэлектуальныя гутаркі. Я чакала свайго хлопца з арміі. Да яго вяртання заставалася ўсяго паўгода, калі мной авалодала манія. Я не ведаю, як гэта называецца па-навуковаму, але, падаграваемая размовамі сябровак, я пачала жахліва баяцца застацца старой дзеўкай. Пачала сумнявацца ў тым, што, дачакаўшыся Сашу з арміі, стану ягонай жонкай. Дайшло да таго, што я загадвала на нумары праязджаючых машын: калі ўгадаю — возьме замуж. Загадвала на колькасць прыступак, на колькасць сваіх крокаў па тратуары да трэшчыны — цотная альбо няцотная лічба: калі цотная — дык возьме. Аб'ездзіла ўсіх гадалак у Мінску...

А ў заліковай кніжцы пачалі з'яўляцца "тройкі". Саша прыйшоў з арміі і паступіў вучыцца. Мне тады было 20 гадоў, і я пачала лічыць сябе старой. Я, прыгожанькая дзяўчынка з інтэлігентнай сям'і, зняславіла сваіх бацькоў, свой род, здрадзіла сабе, выйшаўшы замуж за першага, хто зрабіў мне прапанову. Гэта быў мой сусед, ён застаўся ў вёсцы, працаваў трактарыстам, піў, лаяўся. Але я з-за яго кінула вучобу, вярнулася ў вёску.

Працвержэнне прыйшло праз два месяцы, калі, паспытаўшы бруду сямейнага жыцця з п'яніцам, я прыбегла да сваіх бацькоў, і яны, уздыхнуўшы з палёгкай, забралі мяне з той сям'і і пад адабрэнне родных выправадзілі назад у Мінск, вучыцца.

На стацыянар я ўжо не пайшла. Уладкавалася на працу, жыла ў сястры. І зноў вярнулася да мяне мая манія. Закахалася безадказна ў аднаго інжынера, які быў старэйшы за мяне на 14 гадоў. І зноў гадала: пакахае ён мяне ці не — на нумарных знаках машын, на колькасці запаленых ліхтароў, вокнаў... Я плаціла па 100-200 рублёў цыганкам, каб яны прычаравалі яго. Праводзіла час за чытаннем філасофскіх кніг, каб стаць для яго добрай субяседніцай. Але, як аказалася, яму не патрэбна была душа мая. Да жанчын у яго быў аднабаковы інтарэс, спартыўны азарт — секс.

Пасля чатырохгадовай маніі і марных спроб выйсці за Санечку замуж я забылася на мужчын і паступіла ў БДУ на філфак завочна. У 24 гады. Пачала ўсё з нуля. Два гады я была разумніцай. Потым пазнаёмілася з хлопцам.

Колечка пачаў насіць мне кожны дзень кветкі, сцвярджаючы пры гэтым, што ён не давярае ніводнай дзяўчыне. І патрабаваў, каб я даказала яму сваё каханне. Ён абяцаў, што хутка мы паедзем да яго бацькоў і сястры, у якой нарадзіўся сын.

А потым сказаў, што ўсё скончана, ён мяне больш не кахае. Я не спала начамі, не магла зразумець, чаму? Да 23 лютага купіла яму падарунак і паехала ў інтэрнат. Колечкі дома не было, але падарунак я пакінула.

Потым да нас дамоў прыйшла жанчына з маленькім хлопчыкам. Хлопчык быў апрануты ў імпартны касцюмчык, такі, які я падарыла пляменніку Колі, а жанчына — у блакітную блузку, якую я перадавала для ягонай сястры. Гэта была жонка Мікалая...

Каб змыць ганьбу, я была гатовая ўтапіцца. У мяне пасівелі валасы, ноччу я курыла, на працы трэсліся рукі. Я зразумела, што любая сувязь з мужчынам мне прыносіць няшчасце.

— Усё, 26 гадоў, застанешся ў векавухах! — пужаў мяне д'ябал. І я падымалася, адыходзячы ад ганьбы і, падбадзёрваемая сяброўкамі, ішла на танцы, знаёміцца. Ліпла дрэнь. Я імкнулася зацягнуць у загс добрага хлапца, таварыша па вучобе. Але ён спужаўся маёй маніі...

Апошнім быў адзін п'яніца, з якога я імкнулася зрабіць чалавека.

21 кастрычніка 1989 года я пакаялася ў царкве і перайшла жыць у інтэрнат.

Якое шчасце, што ў маім жыцці няма больш мужчын! Я не выношу нават іх паху, калі еду на працу. Я не жадаю ні з кім знаёміцца. Я ведаю, што будзе за знаёмствам: заляцанне, потым ложак, потым страта цікавасці да цябе, потым манія выйсці замуж. А пасля замужжа — мыццё бялізны, прыбіранне кватэры, лаянка, п'яны муж, а калі інтэлігентны, дык муж з палюбоўніцай. Вунь колькі пішуць: муж здраджвае, дзеці дрэнныя — пераходны ўзрост у іх. Хопіць з мяне перажыванняў!

У юнацтве я шукала родную душу і не знайшла яе сярод мужчын — іх цікавіць толькі секс. Але чаму гэтая родная душа павінна знаходзіцца менавіта ў чужым мужчыне? Можа яна ў маёй маме, тату, брату? Якая розніца, каго любіць, галоўнае — шчыра! Я люблю свой пакой у інтэрнаце, блакітны досвітак за акном, пушыстага зайчыка ў мяне на стале, сваю працу, дырэктара школы, дзе выкладаю, Бога, зямлю, дрэвы. Гэта чыстая любоў, якую не параўнаць з тым брудам, які людзі маюць на ўвазе, гаворачы аб каханні паміж мужчынам і жанчынай.

Я іду па горадзе з горда ўзнятай галавой. Сняжынка апускаецца мне на руку, і я любуюся ёю. Я ведаю, што другой такой ужо не будзе. Хто сказаў, што існуе на свеце каханне паміж мужчынам і жанчынай, якое трымаецца на адзінстве душ? Бязглуздзіца!

*Вераніка М., г.Мінск, педагог".*



Мілая Вераніка!

Менш за ўсё мне хацелася б парушаць з такой цяжкасцю дасягнутую Вамі душэўную раўнавагу, але і падтрымаць Вас таксама не магу. Хаця ведаю: у Вас нямала аднадумцаў сярод жанчын. Іх жыццёвы вопыт таксама прывёў да расчаравання ў мужчынах, да страты веры ў магчымасць шчасця для сябе ў сям'і. Але думаю, не памылюся, калі скажу, што ў асноўным гэта Вашы равесніцы — крыху больш ці крыху менш за 30.

А ці даводзілася вам кантактаваць з адзінокімі жанчынамі, якім за 40 і больш таго? Мне даводзілася. І паверце, іх захапленне сваёй свабодай ад сямейных вузаў куды меншае. Даруйце, калі ласка, Вераніка, за прамату, але Ваша цяперашняя канцэпцыя — самападман. А самападман не можа працягвацца вечна. Так, мужчыны, з якімі звёў Вас лёс (зрэшты, ці толькі лёс?), аказаліся эгаістычнымі і нявартымі Вас, але хіба гэта значыць, што такі ж і ўвесь род мужчынскі? Вы ж самі цёпла гаворыце пра добрага хлапчука-аднакурсніка, пра дырэктара школы, у якой працуеце. Так, дзеці, вырастаючы, часта не спраўджваюць бацькоўскіх надзей. Але іх чалавечая значнасць — прама прапарцыянальная затрачваемым на іх намаганням. Ці Вам, педагогу, не ведаць гэта.

"Секс — нікчэмнасць". І тут Вы залішне катэгарычны. Паслухайце, што сцвярджае чалавек, якому не адмовіш у кампетэнтнасці на гэты конт, вядомы сексапатолаг Сяргей Агаркаў: "Гэта заўважана даўно: у перыяд нестабільнасці ў грамадстве ідзе ўмацаванне асабістых сувязей — быццам імкненне супакоіцца, знайсці сябе ў інтымным кантакце. Закрыцца ад грамадства — у сям'і". А хіба не такі менавіта ў нас цяпер "перыяд нестабільнасці"? Ці не больш цяжка перажываць яго ў адзіноце?

"Я ведаю, што ідзе за знаёмствам: заляцанне, потым ложак, потым страта цікавасці да цябе...". Ну, чаму ж абавязкова — страта цікавасці? Вядома, людзі могуць не падысці адзін да аднаго як сексуальныя партнёры. А калі ім добра разам? Толькі прыроджаныя дон-жуаны, сексуальныя калекцыянеры, прагныя да перамены інтымных уражанняў? Але наўрад ці справядліва адмаўляць астатняй частцы мужчын (думаю, што яна ўсё ж большая) у здольнасці ацаніць гармонію ў адносінах, адданасць, дабрыню, ды і проста жыццёвую стабільнасць. Бо, па сутнасці, мужчына-халасцяк — гэткі ж адзінокі ў сённяшнім свеце і адчувае такі ж душэўны дыскамфорт, што і незамужняя жанчына. Калі верыць медыцынскай статыстыцы, ён нават хварэе часцей, чым сямейны яго сабрат.

Калісьці я прачытала выказванне, якое дагэтуль уяўляецца мне вельмі дакладным і мудрым. "Мацней за бруднае палавое каханне толькі чыстае палавое каханне".

Цяжка завочна меркаваць, чаму ў Вас так стойка не складваліся адносіны з Вашымі знаёмымі. Ці не засланяла для Вас абстрактнае жаданне выйсці замуж за канкрэтнага чалавека з яго густамі, слабасцямі, асаблівасцямі характару? А калі людзі эмацыянальна далёкія адзін ад аднаго, то і сексуальнае шчасце для іх малаверагодна, і даражаць яны адно адным менш.

Маючы справу з такой колькасцю мужчын, Вы чамусьці не ўлавілі адной істотнай заканамернасці: большасць з іх абсалютна не пераносіць ніякага замаху на сваю свабоду, зададзенасці ў адносінах. Ваш выбраннік павінен адчуць, што страціць Вас для яго балюча, што жаніцьба з Вамі зробіць яго жыццё больш цёплым, больш асэнсаваным, больш утульным. А ўжо як яму даць зразумець гэта — няхай падкажа Ваша жаночая інтуіцыя.

Асабістае шчасце жанчыны ў многім залежыць ад таго, наколькі тонка адчувае (і вытрымлівае!) яна найтанчэйшую мяжу паміж велікадушнасцю і ўсёдаравальнасцю, паміж дабратой і ахвяраваннем сваёй годнасцю, паміж какецтвам (дасціпным і неабходным) і разбэшчанасцю, паміж клапатлівасцю і назойлівасцю.

Як і Вы, сэнс чалавечага існавання я бачу ў нястомным самаўдасканаленні. З цягам часу, аднак, зразумела, што яно — не толькі ў адточванні свайго інтэлекту і павышэнні прафесіяналізму. Вы самі — і зусім справядліва — у той жа рад ставіце любоў да блізкіх. Вось толькі культываваць яе ў сабе значна больш складана.

Зрэшты, як я зразумела, мужчын Вы зараз рашуча выключаеце з кола сваіх блізкіх. Сапраўды, некалькі з іх прынеслі Вам цяжкія перажыванні. Але ці дастатковая гэта падстава для маштабных абагульненняў?

"Сняжынка апускаецца мне на руку і я любуюся ёю. Я ведаю, што другой такой ужо не будзе...". Як жа Вы, хто так тонка адчувае шматаблічную гармонію свету, уніфікуеце ў сваім успрыняцці куды больш складанае стварэнне прыроды? Становячыся ў позу ("усе мужчыны — нягоднікі"), жанчыны асуджваюць саміх жа сябе на беднае эмоцыямі, самотнае існаванне.

"Хто сказаў, што існуе на свеце каханне паміж жанчынай і мужчынам, заснаванае на адзінстве душ?". Ды ўся гісторыя чалавецтва гаворыць пра гэта. Дантэ, Абеляр, Яраслаўна, жонкі дзекабрыстаў.

"Я люблю свой пакой у інтэрнаце, блакітны досвітак за акном, пушыстага зайчыка ў мяне на стале". Вы адкрытая для кахання. Вы вартая быць каханай. Дык, можа, зняць эпітым'ю, накладзеную самой на сябе і падысці да тэлефона, пакуль ён яшчэ звоніць?

На пісьмо Веранікі М. адказвала журналістка Галіна ПШОНІК.




## Гісторыя з абмоткамі, чырвонымі зорачкамі і чацвёртым сном Веры Паўлаўны

**Васіль Пятровіч Н., восемдзесят сем гадоў...**

— Я падумаў: добры дзень для смерці. Чыста. Снег. Хтосьці пачне ўсё з пачатку. Жыццё — тэатр, у кожнага — свая роля. Мой тэатр знік. Людзі, якія былі калісьці маімі сябрамі, з якімі ў мяне была адна памяць, адзін час,ператварыліся ўжо ва ўспаміны, у туман, я не магу іх адрозніць ад сну. Ад начнога трызнення. Адзін час заканчваецца, пачынаецца другі. Мне далёка за восемдзесят. Я вельмі стары. Упасці б у старэчы маразм — вось дзе выратаванне. Становішся свабодным, як дзіця, няма памяці зусім. Не, бачу ўсё ясна. Як на досвітку.

Гэтыя жудасныя болі ў суставах... Але яны дапамагаюць, вымушаюць зміріцца са смерцю, таму што робяць абыякавым. Застаецца толькі адно жаданне: хутчэй бы ўсё скончылася. Асабліва пасля пакутлівай бяссонніцы.

Я спрабаваў пайсці... Сам... Рэмень на шыю... Завязваеш, як гальштук... Праўда, я ўжо даўно не насіў гальштук. Ён мне не патрэбны дома, на кухні. Сярод людзей я бываю рэдка, а цяпер і зусім не хочацца, я нікога не ведаю, ні ў сваім доме, ні на сваёй вуліцы. Апошні знаёмы дзядок з суседняга пад'езда памёр гадоў пяць таму. Зручней усяго глядзець на вуліцу праз акно. Назіраць. Якое шчасце, што ў мяне трэці паверх, нават твары можна разгледзець, прычоскі. Што я заўважыў: жанчыны зноў пачалі насіць доўгія валасы і скураныя курткі. Жанчын з доўгімі валасамі я сустракаў толькі ў дзяцінстве і кіно. Мая першая і другая жонкі былі стрыжаныя, як і ўсе. Іх ужо даўно няма. Дзе яны? Так, у старасці я стаў ненадзейным атэістам. Я хацеў... Тады мне не далі знікнуць... Я расплюшчыў вочы і зразумеў, што зноў жыву, мая грудная клетка ўзнімалася, як сапсаваная помпа, але я дыхаў.Каля мяне стаялі ўрачы. Што яны могуць сказаць чалавеку, калі вяртаюць яго адтуль? Быццам яны ведаюць, адкуль яны яго вяртаюць. Яны могуць паставіць кропельніцу, паслухаць пульс. І ты чуеш, як у цябе ўліваецца жыццё ў той час, як ты хочаш памерці. Але я жывы толькі сярод мёртвых... Сярод жывых у мяне дзіўнае адчуванне, нібыта я ўжо не з імі, а гляджу на іх і на сябе аднекуль з іншага вымярэння. Дзіўна, што вы ў мяне аб нечым пытаецеся, быццам я жывы, а не мумія. Як быццам аднымі і тымі ж словамі карыстаемся, з адной у другую камеру перастукваемся. Ці ж вы зразумееце, што я ўсё жыццё любіў партыю?! Так, партыю. Самае дарагое для мяне слова. Гэта была мая страсць, маё каханне. З такой страсцю я змог палюбіць толькі думку аб смерці. Сумна паміраць ад хваробы, ад жудаснага болю ў суставах. Ад бяссонніцы, калі размаўляеш і размаўляеш з сабой. Ці з мёртвымі. Слухаю. Яны выдатныя субяседнікі, таму што заўсёды маўчаць. Сярод жывых у мяне амаль не засталося знаёмых. Думка аб смерці зноў з'яднала мяне з нечым вышэйшым, як раней з партыяй. Я — семдзесят гадоў у партыі. Навошта? Каму гэта цікава? Нашы памылкі, нашы радасці. Не ведаю. Не ўпэўнены.

Я хачу ўтрымаць думку. Вельмі важна, каб вы зразумелі. Для гэтага мне трэба ісці прама, не збочваць і не вяртацца. Ісці прама да той кропкі... Калі я накінуў на сябе рэмень...

Партыя — гэта мой боль. Нашы ідэалы... Я вас разумею... Сёння цяжка пра гэта гаварыць... Сын у мяне нарадзіўся ў дваццаць сёмым годзе. Назвалі Кастрычнікам. У гонар дзесятай гадавіны Вялікага Кастрычніка. Якія ж ідэалы былі! Чысцейшыя ідэалы! Светлыя. І людзі былі светлыя. Такіх людзей больш ніколі не будзе. Я нядаўна прачытаў у адной газеце, што мы, маё пакаленне, выпалі з гісторыі. А мы былі. Не спяшайцеся нас забыцца, выкрасліць. Мы таксама цалаваліся, кахалі. На вяселле жонка сшыла белую сукенку. З марлі. Я быў паранены і таксама перавязаны ўвесь марляй, бінтамі. Але якія мы былі шчаслівыя! Вакол — голад, эпідэміі, тыф. Зваротны тыф, галаўны тыф... Іх шмат было. Ідзеш па вуліцы — ляжыць мёртвая маці, каля яе сядзіць маленькае дзіця і просіць: "Мамка, дай паесці...". Горад Орск Арэнбургскай вобласці... Дваццаць першы год... Хлеб дваццаць першага зусім не такі, як хлеб семнаццатага. Хлеб з макухай. Яго не ўгрызнеш. Але якія мы шчаслівыя: жывём у вялікі час, служым рэвалюцыі! Гэта не выкараніць з майго сэрца, з майго мозгу.

Ішла грамадзянская вайна... Я нават памятаю, якія абмоткі нам выдалі. Чырвоныя зорачкі для шапак. Шапак не было, але чырвоныя зорачкі нам уручылі. Што за Чырвоная армія без чырвоных зорачак! Далі вінтоўкі. І мы сябе адчувалі абаронцамі рэвалюцыі. Калі нашы таварышы траплялі ў палон, то жывымі мы іх ужо не бачылі, нам вярталі іх толькі мёртвымі. На лбе і на грудзях у кожнага выразаны зоркі. Дзве чырвоныя зоркі. Гэта ж наша вера, гэта ж наша вера, гэта ж наша біблія! Я ўжо перад адыходам...

30 гадоў таму, 20 гадоў таму, 10 гадоў таму, 5 гадоў таму. Яшчэ год таму... Не! Наша жыццё — гэта быў палёт. Для майго пакалення, пакалення бальшавізму, ідэалам стала барацьба. 1919—1921 гады. Самыя лепшыя гады, мае добрыя прыгожыя гады. Яшчэ жывы Ленін. Леніна я нікому не аддам, з Леніным у сэрцы памру. Гэта маё юнацтва. Усе верылі ў хуткую сусветную рэвалюцыю, любімая песня: "...и на горе всем буржуям мировой пожар раздуем". Канешне, было шмат наіўнага, смешнага. Танцы, напрыклад, мы лічылі мяшчанствам, наладжвалі суды над танцамі, каралі тых камсамольцаў, якія хадзілі на вечарынкі, вальсавалі. Я аднойчы нават быў старшынёй суда над танцамі. З-за гэтага свайго марксісцкага пераканання не навучыўся танцаваць, потым вельмі каяўся. Ніколі не мог патанцаваць з прыгожай жанчынай. Аб чым мы спрачаліся? Аб камуністычнай будучыні, якой яна будзе і ці хутка. Праз сто гадоў дакладна, але нам гэта здавалася далёка, вельмі далёка. Хацелася хутчэй. І аб каханні спрачаліся. Асабліва аб кнізе А.Калантай "Каханне пчол працоўных". Аўтар абараняла свабоднае каханне, г.зн. каханне без кахання, без пушкінскага: "Я помню чудное мгновенье". Нам кніга падабалася, таму што каханне мы адвяргалі, як буржуазныя забабоны, біялагічны інстынкт, які сапраўдны рэвалюцыянер павінен перамагчы ў сабе. Любіць можна было толькі рэвалюцыю. Па-мойму, калі мне не здраджвае памяць, погляды дзяліліся: адны — за свабоднае каханне, але з "чаромхай", г.зн. з пачуццямі, другія — без усялякай "чаромхі". Я быў за тое, каб з "чаромхай", каб цалавацца. Да чаго ж смешна, каб яго чорт узяў! — сёння пра гэта прыгадваць...

Вось вы гаворыце, што гэта утопія. А мы шчыра верылі, усёй душой. Пагляддам адсюль, з канца, усё не так, як тады, і словы як быццам незнаёмыя: "Весь мир насилья мы разрушим до основанья, а затем. Мы свой, мы новый мир построим. Кто был никем, тот станет всем...". Разбурым! Зараз раптам прыгадваю, бачу: з разбітай памешчыцкай сядзібы нехта выкінуў піяніна. Вясковыя дзеці пасвяць кароў і іграюць палкамі на гэтым піяніна. Гарыць маёнтак... Белы высокі дым... Старыя хрысцяцца, а мы смяёмся... З царквы жоўты купал упаў, яго сцягнулі вяроўкамі, коціцца... Мы смяёмся... "Мы свой, мы новый мир построим...". Напаўпісьменныя, напаўгалодныя. Маладыя. З нас лёгка атрымліваліся ідэалісты, летуценнікі. Мы марылі сярод крыві — сваёй і чужой. Любімыя вершы: "То сердце не научится любить, которое ўстало ненавидеть", "...дело прочно, когда под ним струится кровь...". Нейкім недаступным розуму чынам мара і кроў ужываліся. Чалавека проста не было — быў капіталіст, кулак, бядняк, пралетарый, імперыяліст, буржуй. Забітага шкадавалі, калі ён — пралетарый, але неяк мімаходзь шкадавалі, на хаду, на маршы. Скакалі на конях да перамогі: "...отряд не заметил потери бойца и "Яблочко"-песню допел до конца". Ні кроплі, ні грама спачування, калі — кулак, буржуй. Невытлумачальная рэч! У Эсхіла ці Эўрыпіда нядаўна знайшоў: "Людзі не маглі б жыць, калі б багі не далі ім дару забыцця". Мяне гэты дар пакінуў. Раптам задаю сабе пытанне (а ніколі ж раней не задаваў): чаму я не шкадаваў таго хлапчука з распоратым пузам, набітым залачонымі пагонамі? Ну, бяляк, ну, буржуйскі сынок... І ўсё ж такі, як ты... Хлапчанё... Не, па законах логікі, па законах навукі нас судзіць нельга. Нас можна судзіць толькі па законах рэлігіі. А я няверуючы...

— Я яшчэ ўчора хацеў спытаць: няўжо вам на самай справе цікавы гэты звар'яцелы стары, якому нават хлеб ужо не пахне? Заўсёды хваляваў пах свежага хлеба, а цяпер і ён без паху. Як вада. Я ўсіх перажыў... Я пераждаў свайго сына... Я пакутую ад бяссонніцы... І шчоўкае, шчоўкае ў мазгу... Як у фотаапараце... Але я павінен ісці прама да той кропкі... Не збочваць, не вяртацца.

Крыху раней, калі я яшчэ выходзіў на вуліцу. Год таму. Выбраўся, канешне, з палачкай. Калісьці гэта было так блізка, усяго два кварталы, а тут гадзіну цягнуўся. У трамвай залезці пабаяўся, там людзі, шмат людзей, а тут я адзін, калі што — да сценкі дома можна прытуліцца, нібыта задумаўся, пастаяць, адпачыць. Не люблю, калі мне напамінаюць пра маю старасць. А я вельмі стары. Я хацеў пераканацца, што Ленін стаіць там, на плошчы, дзе ён стаяў заўсёды. Убачыў яго яшчэ здалёк, спачатку — паднятую руку, потым усю фігуру. Трыбуны не было, аказваецца, трыбуну перанеслі кудысьці. Раней яна стаяла адразу за помнікам, перад святамі яе ўпрыгожвалі чырвонымі бантамі, да Леніна прыносілі кветкі. Там заўсёды ляжалі кветкі. Кветак я не знайшоў, нават засохлых. Калі б у мяне было паболей сіл, я прынёс бы яму кветкі. Але я не ведаю, дзе зараз знаходзяцца кветкавыя магазіны, мне абавязкова спатрэбіліся б чырвоныя гваздзікі. Сёння так не любяць чырвоны колер, усё чырвонае, што я не ўпэўнены: ці вырошчваюць чырвоныя гваздзікі?

У мяне нічога, акрамя Леніна, няма. Калі вы адбераце ў мяне веру ў Леніна, што ў мяне застанецца? Што застанецца ад майго жыцця, ад майго юнацтва? Усё маё багацце — жалезны ложак, які я гадоў сорак таму набыў, па-мойму, адразу пасля вайны, пісьмовы стол і кнігі. Я не збіраў рэчы, мне нічога падобнага ў галаву не прыходзіла. Спачатку ваяваў за светлую будучыню, потым яе будаваў. Хто абзаводзіцца рэчамі ў ваеннай зямлянцы ці на будаўнічай пляцоўцы? Гэта было зусім іншае жыццё. Наша жыццё. Я разумею, што ў мяне няма ніякіх доказаў, акрамя ўспамінаў. Але яны не матэрыяльныя... Яны са сферы заклінанняў...

...Мы ўсе напаўгалодныя, напаўраспранутыя. Але суботнікі ў нас — круглы год, і зімой таксама, у трыццаціградусны мароз. На маёй жонцы асенняе палітко. Мы грузім вугаль, цягаем тачкамі, мяшкамі на сабе. Яна — цяжарная. Незнаёмая дзяўчынка, якая разам з намі працавала, пытаецца:

— У цябе такое палітко лёгкае. А іншага няма?

— Не.

— Ведаеш што: а ў мяне два. Было яшчэ добрае паліто, і ад Чырвонага Крыжа атрымала новае. Ты скажы мне свой адрас, я ўвечары прынясу.

І вечарам яна прынесла нам паліто, не старое, а новае. Яна нас не ведала, упершыню нас бачыла. Дастаткова было: мы — члены партыі, і яна — член партыі. Мы былі як браты і сёстры. Маладыя і бедныя. Нам усім нічога не трэба было, акрамя адной веры.

У нашым доме жыла сляпая дзяўчынка, з дзяцінства сляпая, і яна плакала, калі мы не бралі яе на суботнік. Усе памерлі. Бальшавіцкае пакаленне ляжыць пад мармуровымі плітамі. І на плітах выбіта: член партыі з такога вось года... Схадзіце на старыя могілкі... У нас у Ленінградзе, у Маскве... З якога года ў партыі — гэта было вельмі важна нават пасля смерці.

Анекдот раптам успомніў... Тых гадоў анекдот... Чыгуначны вакзал. Натоўпы людзей. Чалавек у скураной куртцы адчайна некага шукае. Знайшоў! Падыходзіць да другога чалавека ў скураной куртцы:

— Таварыш, ты партыйны ці беспартыйны?

— Партыйны.

Шэптам:

— Тады скажы: дзе тут сарцір?

Здаецца, я з глузду з'ехаў. Што я прыгадваю? Я нешта стаміўся, крыху памаўчу...

...Для вас мы — звар'яцелае племя, племя самазабойцаў. Я неаднаразова чуў... У газетах чытаў... Па тэлебачанні. Зусім іншы час быў! Зусім іншыя людзі! Вось не так, як вы пішаце, як вы думаеце... Не так!

Першага бальшавіка я пачуў у сваёй вёсцы. Малады студэнт у салдацкім шынялі. Ён выступаў ля царквы, на плошчы:

— Зараз адны ходзяць у ботах, другія — у лапцях, а калі будзе савецкая ўлада, усе будуць аднолькавыя.

— А што такое савецкая ўлада?— крычаць мужыкі.

— А гэта будзе такі цудоўны час, калі вашы жонкі будуць апранацца ў шаўковыя сукенкі і туфлікі на абцасах. Не будзе багатых і бедных. Усе будуць аднолькавыя. Усім будзе добра.

Мая мама надзене шаўковую сукенку... Мая сястра будзе хадзіць у туфліках на абцасах... Ці ж магчыма не палюбіць гэтую мару? За бальшавікамі пайшлі бедныя людзі, незаможныя. Іх было больш.

Вам гэта цікава? Тады далей слухайце.

Першага чырвонаармейца я ўбачыў праз год. У васемнаццатым. У нашу вёску прыехаў харчатрад забіраць хлеб у кулакоў. Кулакі хлеб не аддавалі, хавалі і палілі. Я ўжо быў камсамольцам. Мне сказалі: Чырвоная армія галадае, савецкая ўлада галадае, Ленін галадае, ты павінен дапамагчы. Мне пятнаццаць гадоў. Я паверыў! Ноччу мы сачылі за тымі, хто багацейшы, дзяжурылі. Ну і я высачыў, што наш сусед, дзядзька Сямён, спаліў хлеб у лесе. Раніцай знайшлі тое месца, яшчэ зямля цёплая... Зернем паленым пахне... Прывялі дзядзьку Сямёна... Камандзір гаворыць:

— Пад трыбунал!

Ніхто не ведаў гэтага слова. Растлумачылі: хуткі суд. Прадуктовы трыбунал — суд за зламыснае ўкрывальніцтва хлеба ў цяжкі для савецкай улады час. Прысуд адзін — расстрэл. Увечары дзядзьку Сямёна прывезлі на калёсах у лес і расстралялі. На тым самым месцы, дзе яшчэ хлебам пахла...

Мне было страшна. Да гэтага я не бачыў, як расстрэльваюць людзей... Але Чырвоная армія галадае, Ленін галадае... Я быў хлапчук...

— Ты зразумеў,— развітаўся камандзір,— што савецкая ўлада ўсім буржуям і кулакам аб'явіла бязлітасную вайну? Салдату рэвалюцыі патрэбна жалезнае сэрца. У нас шмат ворагаў.

Атрад паехаў, і бацька выгнаў мяне з дому:

— Знікні, каб я цябе ніколі не бачыў. Ідзі са сваёй вёскі. А то заб'юць. І нас усіх з-за цябе заб'юць.

Я ішоў з вёскі міма могілак, дзе ляжаў дзядзька Сямён... Плакаў. Сваю першую ахвяру, якую я прынёс у імя рэвалюцыі, я аплакваў дзіцячымі слязамі. Але мая мама надзене шаўковую сукенку... Мая сястра будзе хадзіць у туфліках на абцасах... Не толькі яны, усе будуць шчаслівыя.

Шчоўкае... Шчоўкае... Часам мне здаецца, што мой мозг узрываецца. Ці там стужка парвалася. Раптам нічога не памятаю. Або пачынаю прыгадваць тое, што ніколі не прыгадваў. Не памятаў. Тады кадры круцяцца-круцяцца, як на старой плёнцы. Нямы кінематограф. Без голасу. Адны чалавечыя вочы і твары. Часцей за ўсё коні скачуць. Так скачуць, што вось-вось лопне сэрца. Пакуль вочы на расплюшчу... Калі памерла мая другая жонка, я зразумеў, што ў мяне нікога не засталося, акрамя мяне самога. Я сам сабе сябар, я сам сабе суддзя, я сам сабе вораг.

Ну, верыў я! Верыў! Увераваў! Мы былі фанатыкамі рэвалюцыі — маё пакаленне. Маё цудоўнае пакаленне. Толькі вось бяссонніца па начах... Не, я захоплены сваім пакаленнем, захоплены ягоным фанатызмам. Хто можа памерці? Толькі той, хто гатовы памерці. І калі б не было нашага фанатызму, ці вытрымалі б мы? Стоп! Часам я лаўлю сябе на думцы, што не размаўляю нават з самім сабой, а выступаю. Увесь час перад кімсьці выступаю. Тады я ціхенька сабе раю: "Ану, злезь з трыбуны!".

Не патрабуйце ад мяне логікі. Я любіў рэвалюцыю. Якая прыгожая ідэя: усе будуць братамі, усе будуць роўнымі. Вечная ідэя. Бессмяротная. Лепшага нічога ў свеце не прыдумана, як чалавек вылез са шкуры. Тое, што зараз ганяць як сацыялізм, ніякага дачынення да сацыялістычнай ідэі не мае. Мая бяссонніца... Заснуў раніцай... Сон... Дзіця ўжо вялікае, цяжкае... Я нясу яго на руках... І мне добра. Гляджу яму ў твар блізка-блізка, як багародзіцы глядзяць на іконах у вочы сваім немаўляткам: я дзядзьку Сямёна нясу... Здаецца, закрычаў... Калі спіш, заўсёды крычыш без гуку, як у баі. Перад боем. Я яшчэ шашкай ваяваў. У казака мёртвага забраў. А сёння касмічнае стагоддзе, пра "зорныя войны" пішуць. І вы хочаце мяне зразумець? Калісьці Леў Мікалаевіч Талстой задумаў напісаць раман пра эпоху Пятра І. Але кінуў. І растлумачыў гэта тым, што душы людзей таго часу яму не зразумелыя.

Вы думаеце, што я так адразу — рэмень на шыю... У пятлю... Не, я спрабаваў жыць. Я пайшоў у Дом ветэранаў партыі, як кажуць, уцёк у свой час. Там і сапраўды час спыніўся, там усе жывуць мінулым, іншага нічога ні ў кога няма. У мяне выраслі ўнукі, а ў многіх так іх няма. Асабліва шмат жанчын. Мяне ажаніць... хацелі... (Смяецца). Калі б у хаце зноў запахла пірагамі, я мог бы ажаніцца. Але там (гэта сумна) няма ніводнай жанчыны, якая любіла б пячы пірагі. Яны служылі рэвалюцыі, краіне, ім не было калі раджаць дзяцей, вучыцца пячы пірагі. Чаму мне смешна? Я і сам такі. Мне цяжка ў старасці, я нічога не люблю, нічым не захапляюся. Схадзіў некалькі разоў на рыбалку — кінуў. Шахматы з юнацтва люблю, таму што Ленін любіў гуляць у шахматы. Мне няма з кім гуляць у шахматы. Можа, трэба было застацца там, там усе гулялі ў шахматы. Я ўцёк... Хацеў памерці дома... Магу я сабе дазволіць за ўсё жыццё адзіную раскошу — памерці дома...

(Працяг. Пачатак у №№ 16, 17)

(Працяг у наступным нумары).

# СЦЭНАРЫЙ БУДУЧАГА ЗАБОЙСТВА

*"Не ўпэўнена, што хутка не рашуся на злачынства. Ніякай кары, нават вышэйшай меры, не баюся. Мой адзіны і апраўдальны намер — пазбавіць сябе ад стрэсаў, а дзяцей — ад здзекаў і зняваг".*

**(З ліста ў рэдакцыю).**

Пасля трохгадзіннага маналога-споведзі Алы Віктараўны Гайдэль не здзіўляешся — шкадуеш. Пра нашу нелюбоў да "нянашых", пагарду, абыякавасць, а дзе і відавочную агіду да чужых лёсаў-трагедый.

...Шаснаццацігадовай сустрэла яна першае каханне. Леанід прыехаў у Жодзіна ўладкоўвацца на БелАЗ. Там працавала токарам і Ала. Ускружыла дзяўчынцы галаву невядомае раней пачуццё. Растаяла ў моцных абдымках хлопца, паверыла палкім прызнанням і... падманулася. Праз некалькі месяцаў "на льва падобны" Леанід, які цалкам насыціўся каханай, звольніўся з завода і паехаў да бацькоў на Гомельшчыну. "Як жа так? Няўжо кінуў?" Ала — услед за ім. Толькі *што* ўгаворы, калі любы пачаў паляванне за новай ахвярай...

Пакусаныя да крыві губы, вочы — поўныя слёз. Без грошай, галодная, на спадарожных вярнулася Ала ў Жодзіна. Душэўныя раны загойваюцца намнога марудней за цялесныя, і можна толькі здагадвацца, якія пачуцці раздзіралі жанчыну.

Праз некалькі гадоў Ала выйшла замуж, нават не падазраючы, што шлюб акажацца яшчэ большым кашмарам. Законны муж сап'еўца і надоўга "перасяліўца" ў ЛПП. А ў яе на руках застануцца двое малых. Ды якіх! Віка — глухая, Дзяніс — сляпы.

Не, яна не кінула свае крывіначкі, не адраклася. Усю маладосць аддала ім. Паміж дзецьмі і працай не разарвацца? Пакінула завод. Уладкавалася праз два дні ў бальніцу, ледзь зводзіла канцы з канцамі. Бяссонныя ночы. Беганіна па дактарах. Пастаянныя абследаванні. Трывалы пах лекаў у кватэры. Слёзы. Колькі сіл і мацярынскага цяпла спатрэбілася, каб вырасціць малых...

Мінула яшчэ пяць гадоў. Неяк вечарам каля дома Ала сустрэла Леаніда (таго самага): адразу і не пазнала. Клянуўся, што па сённяшні дзень адданы ёй. Стаяў на каленях: "Давай пачнём усё спачатку". Вельмі цяжка было адмовіць.

...Заводскі камітэт БелАЗа, разумеючы, што сям'я з пяці чалавек, прычым двое дзяцей хворых, жыве ў аднапакаёвай кватэры, выдзеліў 56 метраў у доме сталінскіх часоў. У хуткім часе Леанід паехаў на поўнач падзарабіць.

Праз паўгода вярнуўся пры грошах. А з ім знаёмая карціна — навааўленыя "сябры"-сабутэльнікі. Пілі дзень, другі, трэці... Падлічыла жонка — праслязілася. Паспрабавала заікнуцца."Бацька сямейства" недвухсэнсоўна намякнуў: атрымаеш па зубах...

Ад успамінаў аб сямігадовай сапраўднай вайне Алу Віктараўну і цяпер калоціць, бы ў ліхаманцы.

Муж заўсёды прыходзіў позна. Мокры, брудны, іншы раз у крыві. Але абавязкова з бутэлькай шклоачышчальніка ў кішэні. Закрыецца, ужо нічога не разумеючы, у ванне, дабавіць адэкалону. А дзе п'янка — там сварка. Дзе сварка — бойка. Біў азвярэла — рукамі, нагамі. Тузаў за валасы. Кідаўся з сякерай. Ляталі па кватэры прасы. Страшна ўсё апісаць.

Уладкаваўшыся трактарыстам у "Белэнергабудмантаж", украў паркет. Злавілі, асудзілі ўмоўна: спадзяваліся — адумаецца "сем'янін".

А ён у каторы раз п'яным увальваўся ў кватэру.

У 1989 годзе адбыўся развод. Сямейнае, на жаль, уяўнае шчасце, быццам расталая льдзіна, разваліласа на халодныя, вострыя глыбы. На адной Леанід з дачкой ад другой жонкі, на другой — Ала з двума абяздоленымі дзецьмі.

... Мы сядзім у паўпустым пакоі: стол, два разбітыя крэслы, старая абшарпаная секцыя, тэлевізар.

Калі нікога не было, Леанід залазіў праз фортку і цягнуў паціхеньку з кватэры рэчы. Украў талоны і гэтым самым пакінуў сям'ю на паўгода без цукру. Перад ад'ездам прадаў жанчыне з суседняга дома дыван і заявіў у міліцыю, маўляў, былая жонка ўкрала.

Больш як паўгода ён жыў у бацькоў у Рэчыцкім раёне. Ала Віктараўна звярнулася ў пракуратуру Мінскай вобласці з просьбай аб прад'яўленні іску ў нарсуд: прызнаць яго страціўшым права на жыллё. Накіравалі скаргу ў ЖКГ. А Леанід нібы з неба зваліўся, вярнуўся, тэрмінова забраніраваў, як былы жыхар Поўначы, жылплошчу... і зноў пусціў у ход не толькі мат.

Год з лішнім таму А. Гайдэль, нарэшце, сустрэла сапраўднага чалавека і выйшла замуж. Нарадзіла трэцяе, здаровае дзіця. Паверце, ім спадарожнічала б шчасце, калі б былы муж не наведваўся сюды (мае ж правы) п'яны з сябрамі. Зноў гучаць знявагі, пагрозы, якія часам пераходзяць у сутыкненні з цяперашнім мужам.

Чаго прыязджае сюды Л. Хмарук? Папсаваць нервы? Можа, яшчэ не ўсё вывез? А забраў ён, мяркуйце самі — мала ці многа: сервант, стол-кнігу, канапу з крэсламі, радыёлу,дарожкі нямецкія, матацыкл, магнітафон, які Віка атрымала ў падарунак на дзень нараджэння. Крыху пазней — футравую куртку, зняў электрапрывад са швейнай машыны, шторы...

— Сорамна гаварыць: звёз нават мае сукенкі. Усё, што нажыта, куплена ў растэрміноўку. Брала крэдыты, пазыку... А яшчэ патрабуе тахту і тэлевізар. За іх пакуль што не выплаціла,— цярэбіць сукенку мая субяседніца.

— Няўжо і міліцыя не можа саўладаць з сямейным тэрарыстам?— пытаюся, гледзячы ў акно. Бо ў пяці метрах, у суседнім памяшканні, размешчаны... Жодзінскі гараддзел.

У адказ жанчына працягвае афіцыйны бланк:

"На вашу заяву паведамляем: з Л. Хмаруком праведзена прафілактычная размова, у працэсе якой ён папярэджаны аб недапушчальнасці антыграмадскіх учынкаў, парушэнняў правіл сацыялістычнага супольнага жыцця і крымінальных злачынстваў".

— Хутка прыедзе — і зноў усё закруціцца. Я — прастытутка, дзеці — глухары і сляпцы. Больш не вытрымаю. Калі што — я яго заб'ю. Хай садзяць. Буду ўпэўнена, што дзеці жывуць спакойна. А зараз ад аднаго яго выгляду іх трасе, разбягаюцца па кутках...

Гараддзел. Участковы інспектар, лейтэнант В. Цюльманкоў запэўніў, што за час яго працы са жніўня ад А. Гайдэль ніякіх заяў не паступала. Ён ведае, што адбываецца ў доме насупраць. Больш таго, папярэдзіў Алу Віктараўну, што першым увойдзе ў кватэру,калі Л. Хмарук выражыць "усяляцца" і (калі яна кінецца з сякерай, нажом) будзе кіравацца законам аб міліцыі і расцэньваць як нападзенне на супрацоўніка.

Усе, з кім давялося размаўляць у гараддзеле, падкрэслівалі: у гэтай сумнай гісторыі пахне трупам. Думаю, адчулі гэта і чытачы. Пытанне — хто ім стане? А. Гайдэль? Л. Хмарук? Хтосьці з дзяцей? В. Цюльманкоў? Або новы муж?

Што можна прадпрыняць у трагедыі, якая набліжаецца з дня на дзень? Разъмяняць кватэру нельга. Хто пажадае перасяліцца ў старую, сырую двухпавярхоўку?

Міліцыя? Што ў яе сілах, калі падобных сямей толькі на адным участку не пяць, і не дзесяць? Ці дапаможа гарвыканкам, ці не ахапіў яго з галавой сіндром "прыхватызацыі"?

Духоўнае здзічэнне і чэрствасць, варожасць, якую не растлумачыць, злараднасць пры чужым болі ў апошні час становяцца проста рэкорднымі. У рэшце рэшт як нізка трэба апусціцца, каб арганізаваць сапраўднае цкаванне блізкіх (але наўрад ці родных) людзей? Няўжо грамадства (усё грамадства, а не толькі адна міліцыя!) так ніколі і не знойдзе ўправы на злодзея? Ёсць жа ў рэспубліцы, урэшце, і дзіцячы фонд, і таварыствы глухіх, сляпых, іншыя арганізацыі, якія маглі б праявіць не толькі міласэрнасць, але і ўзвысіць голас супраць крыўдзіцеляў слабейшых. Пакуль жа адзінаборства мнагадзетнай сям'і працягваецца. Падзеі развіваюцца па пэўнаму сцэнарыю — у бок непазбежнай трагедыі. Дык што, мы дадзім ёй адбыцца?

**А. Іваноў.**



Фота Я. Быкоўскага.

## ІНФА-КРЫМ

### Чорт спакусіў...

У ноч перад Вялікаднем абрабавалі дом царкоўнай служкі ў Вілейцы. Акрамя 8 абразоў, 2 крыжоў і іншых прадметаў рэлігійнага культу, невядомыя злодзеі выкралі ювелірныя вырабы і іншыя рэчы, а таксама распілі дзве бутэлькі гарэлкі. Відаць, "адзначылі" свята...

А шафёра аднаго з мінскіх прадпрыемстваў знайшлі ў гэтую ж раніцу ў яме побач з заводам ЖБІ, што ў Заслаўі, распранутым, збітым і са звязанымі рукамі і нагамі. Як распавёў пацярпеўшы, напярэдадні ў мясцовым піўбары ён пазнаёміўся з двума мужчынамі і жанчынай, якія вось так "пажартавалі" з ім.

### Зноў барацьба з калгасным ладам?

У ноч на 27 красавіка ў вёсцы Хочын Пухавіцкага раёна невядомы пранік у хату намесніка старшыні мясцовага калгаса. Выкрадзена пясцовае футра, іншае адзенне, 210 даляраў і стрэльба.

## ІНФА-КРЫМ

### Тарная "эпідэмія"

У тую ж ноч з тэрыторыі Барысаўскага кансервавага завода знікла... 960 пустых слоікаў. У хуткім часе міліцыя высветліла, што гэтае злачынства ажыццявілі двое мясцовых дзевяцікласнікаў, якія затрыманы.

### Сенавал не пахне сенам

Так, больш не пахне сенам сховішча калгаса "1 Мая" Лагойскага раёна. У ноч на 28 красавіка яно згарэла разам з 15 тонамі сена. Прычына пажару высвятляецца.

### Восем "дзевак" — адзін... певень

Ноччу 27 красавіка адбылося наступнае здарэнне: невядомы прабраўся ў сарай па вуліцы Камсамольскай у Барысаве, які належыць мясцовай пенсіянерцы, і выкраў... 8 курэй і аднаго пеўня.

У бюро дзяжурыў П. Сіманаў.

# Прыгожымі становяцца

## ў школе рэкламных мадэляў у Мінску пад кіраўніцтвам Аляксандра Варламава. Першы выпуск адбыўся ў канцы лютага гэтага года.

Сустрэцца з А.Варламавым давялося на конкурсе, што праводзіўся ў Беларускім цэнтры моды. У перапынках, пакуль канкурсанты рыхтаваліся да выхаду на сцэну, адбывалася наша гутарка.

**– З якой мэтай арганізаваны сённяшні конкурс?**

— Гэта не зусім конкурс. Сёння сюды прыйшлі дзяўчаты і хлопцы, якія жадаюць паспрабаваць свае сілы ў галіне рэкламы. Кожны з іх можа падпісаць папярэднекантрактнае пагадненне з нашым рэкламным агенцтвам, дзе абгаворваюцца ўсе ўмовы магчымай працы. Потым агенцтва пачынае работу.

**– Значыць, калі я пакінула сваю анкету ў каталогу і прадстаўнікі якой-небудзь з замежных фірм зацікавіліся мной, я змагу працаваць у іх?**

— Так, і абавязкова на ўмовах, якія вы акрэслілі. Напрыклад, калі вы вырашылі здымацца ў адзенні, то ніхто не мае права прымусіць вас распрануцца перад фотакамерай. Наша рэкламнае агенцтва афіцыйна зарэгістравана, тут няма ніякай падпольнай дзейнасці, таму хлопцы і дзяўчаты маюць поўнае права звяртацца да нас з нагоды невыканання ўмоў.

**– Сёння вакол толькі і чуеш: канкурэнцыя...**

— У галіне рэкламы існуе і "чорны" рынак, і падпольныя студыі, якія дзейнічаюць не вельмі сумленна. Наша агенцтва, яшчэ раз падкрэслю, афіцыйнае. Але даводзіцца нялёгка.

**– Вы выходзіце на замежныя фірмы. Як будзе развівацца супрацоўніцтва з імі?**

— Ведаеце прадукцыю сумеснага беларуска-італьянскага прадпрыемства "Беліта"? Італьянцы хочуць зрабіць каталог сваёй прадукцыі. Здымкі адбудуцца ў Мінску. Прымуць у іх удзел выпускнікі школы рэкламных мадэляў.

**– Дарэчы, у школы з'явіўся спонсар? Што змянілася?**

— Не, мы па-ранейшаму працуем самі. А змены ёсць. Цяпер праграма курса разлічана на чатыры месяцы, а не на паўгода, як раней. Гэта азначае, што мы навучыліся працаваць па-новаму. Першы блін заўсёды камяком.

**– Але блін даволі ўдалы, мне здаецца. Аляксандр, якая мэта вашай працы?**

— Я шукаю характары, вобразы. Трэба вучыцца адыходзіць ад шэрасці, аднолькавасці. Хлопцы і дзяўчаты, якія займаюцца ў нашай школе, вызначаюцца ўсмешкай, манерамі, жэстамі. Кожны павінен умець глядзець на сябе збоку. У школе гэтаму вучацца.

**– Аднойчы мяне паставіла ў цяжкае становішча такая думка: "Прафесія мадэляў – прыгожа хадзіць па подыуму, а гаварыць прыгожа яны не ўмеюць". Вы згодны?**

— Ні ў якім разе. У нашай школе ёсць асобны прадмет — тэхніка зносін. Ён вучыць уменню трымацца, весці гутарку.

**– На экзамене ў вашай школе, як і ў звычайнай, ставяцца адзнакі?**

— І на экзаменах, і на занятках абавязкова. Інакш мы не зможам рэальна ацэньваць вынікі. А на выпускным экзамене рабятам давялося пахваляваццa.

**– Яны атрымалі пасведчанні аб сваіх здольнасцях?**

— Так, выхаванцам выдаецца сертыфікат на англійскай і беларускай мовах аб заканчэнні школы рэкламных мадэляў.

**– Заняткі праводзяцца кожны дзень?**

— Кожны дзень з дзевятнаццаці гадзін, акрамя нядзелі. Нярэдка да мяне звяртаюцца з пытаннем, ці могуць у школе займацца іншагароднія. Калі ласка. Толькі тады яны павінны кідаць работу ці вучобу.

**– Аляксандр, а ці наблізіўся дзень нараджэння тэатра музыкі і моды для дзяцей?**

— Не. І адказ просты — адсутнасць матэрыяльнай асновы. Кожнага з магчымых спонсараў перш за ўсё цікавіць выгада. Што лепш — праз пяцьшэсць год мець культурную, выхаваную моладзь або падлеткаў, якія бавяць свой час у падваротнях, пад'ездах? Ні ў адной цывілізаванай краіне не ўзнікае пытанне: "А што я буду з гэтага мець?" У Балгарыі, напрыклад, амаль кожны горад мае свой тэатр, а ў Беларусі адзін оперны тэатр на ўсю рэспубліку. Так што адказаць станоўча я не магу.

**– Будзем спадзявацца, што ў школы ўсё будзе добра, і задумкі застануцца не толькі задумкамі.**

Гутарыла Жанна Пацеенак.
Фота С.Брушко.



*Парыжскі вецер*

## У модзе "пануе" секс



Наперадзе - лета. І хаця крочыць у нагу з модай мы імкнёмся заўсёды, летам усё ж, згадзіцеся, хочацца быць асабліва прыгожай.

Асноўныя накірункі міжнароднай моды. Якія яны сёння? Пра гэта мы папрасілі расказаць аднаго з самых вялікіх "знатакоў" моды ў свеце спадара П'ера Кардэна. Вось яго прафесійная "даведка":

— "Лідэр" сезона 1992 года — колер. Самы папулярны — светла-зімовы: пяшчотныя пастэлі — блакітны, бэзавы, зялёны і адценні ружовага, ну і, зразумела, белы. Сюды ўваходзяць і ўсе адценні шэрага колеру. "Фаварытамі" таксама будуць ружовы з адценнямі карычневага і блакітнага амаль да насычаных цёмных колераў ("колер ягад"). У стракатых тканінах найбольш папулярнымі будуць сонечны жоўты, аранжавы, "зялёны яблык", ярка-чырвоны — асабліва ў камбінацыях з нейтральнымі колерамі і з чорным.

Цяпер пра фасоны. Пасля парыжскіх паказаў моды вясенне-летняга сезона 1992 года зноў паўстала дыскусія наконт даўжыні спадніц. Толькі некаторыя з мадэльераў, што сапраўды аказваюць значны ўплыў на фарміраванне моды, выступаюць за павелічэнне даўжыні.

Вядучыя мадэльеры свету Армані і Версачэ нядаўна на калекцыі мадэляў у Мілане прапанавалі шорты і штаны: адзін — шырокія, другі — вузкія, "сексуальныя".

Адным словам, у модзе "пануе" міні-спадніца і павялічваецца ўвага да штаноў. Дамінуючай лініяй моды па-ранейшаму застаецца вузкі сілуэт ("сексуальны").

Апошняе — пра абутак. Сёння жанчыны аддаюць перавагу чорнаму колеру. І правільна робяць. Бо чорныя туфлі, асабліва з замшы, падыходзяць да касцюма любога колеру.

Майя Шэндрык.

# Бабруйскі аўтатранспартны тэхнікум

## праводзіць прыём навучэнцаў на 1992-93 вучэбны год па спецыяльнасцях:

**Дзённае аддзяленне**

- тэхнічнае абслугоўванне і рамонт аўтамабіляў і рухавікоў;
- арганізацыя перавозак і кіраванне рухам на аўтамабільным транспарце;
- бухгалтарскі ўлік, кантроль і аналіз гаспадарчай дзейнасці.

**Завочнае аддзяленне**

- тэхнічнае абслугоўванне і рамонт аўтамабіляў і рухавікоў;
- арганізацыя перавозак і кіраванне рухам на аўтамабільным транспарце;
- бухгалтарскі ўлік, кантроль і аналіз гаспадарчай дзейнасці;
- эканоміка і планаванне ў галінах народнай гаспадаркі.

На ўсе віды навучання прымаюцца жыхары Рэспублікі Беларусь.

На дзённае аддзяленне па спецыяльнасцях "Тэхнічнае абслугоўванне і рамонт аўтамабіляў і рухавікоў", "Арганізацыя перавозак і кіраванне рухам на аўтамабільным транспарце" заявы прымаюцца ад асоб, якія закончылі базавую (дзевяцігадовую) або сярэднюю школу, а па спецыяльнасці "Бухгалтарскі ўлік, кантроль і аналіз гаспадарчай дзейнасці" — ад асоб, якія закончылі сярэднюю школу.

На завочнае аддзяленне прымаюцца асобы, якія закончылі сярэднюю школу і працуюць па профілю абранай спецыяльнасці; ваеннаслужачыя на працягу трох гадоў пасля звальнення ў запас; інваліды І і ІІ груп на спецыяльнасць "Бухгалтарскі ўлік, кантроль і аналіз гаспадарчай дзейнасці"; выпускнікі прафесійна-тэхнічных вучылішчаў па адпаведных ці блізкіх спецыяльнасцях; жанчыны, у якіх ёсць дзеці ва ўзросце да трох гадоў.

На дзённае аддзяленне прыём заяў праводзіцца з 1 чэрвеня па 31 ліпеня, а на завочнае аддзяленне — з 3 мая па 10 жніўня.

### ТЭРМІНЫ НАВУЧАННЯ

**1. На дзённым аддзяленні.**

На базе сярэдняй школы па спецыяльнасці "Тэхнічнае абслугоўванне і рамонт аўтамабіляў і рухавікоў" — 2 гады 10 месяцаў; па спецыяльнасці "Арганізацыя перавозак і кіраванне рухам на аўтамабільным транспарце" — 2 гады 6 месяцаў, па спецыяльнасці "Бухгалтарскі ўлік, кантроль і аналіз гаспадарчай дзейнасці" — 1 год 10 месяцаў.

На аснове базавай школы па спецыяльнасці "Тэхнічнае абслугоўванне і рамонт аўтамабіляў і рухавікоў" — 3 гады 10 месяцаў, па спецыяльнасці "Арганізацыя перавозак і кіраванне рухам на аўтамабільнным транспарце" — 3 гады 6 месяцаў.

**2. На завочным аддзяленні.**

На базе сярэдняй школы па спецыяльнасці "Тэхнічнае абслугоўванне і рамонт аўтамабіляў і рухавікоў" — 3 гады 6 месяцаў; "Арганізацыя перавозак і кіраванне рухам на аўтатранспарце" — 2 гады 10 месяцаў; "Бухгалтарскі ўлік, кантроль і аналіз гаспадарчай дзейнасці" — 2 гады 7 месяцаў; "Эканоміка і планаванне ў галінах народнай гаспадаркі" — 2 гады 5 месяцаў.

Да заявы адпаведнай формы прыкладаюцца:

1. Дакумент аб базавай або сярэдняй адукацыі ў арыгінале;
2. Медыцынская даведка па форме № 086/у;
3. Выпіска з працоўнай кніжкі або кніжкі калгасніка, завераная адміністрацыяй;
4. Чатыры фотаздымкі для дакументаў памерам 3х4 см;

Пашпарт (пасведчанне аб нараджэнні), дакумент аб адносінах да воінскага абавязку прад'яўляюцца асабіста ў прыёмную камісію, аб чым робіцца адпаведны запіс у асабовай справе.

Паступаючыя здаюць уступныя экзамены:

на дзённым аддзяленні з 1 жніўня;

на завочным аддзяленні экзамены праводзяцца з 10 чэрвеня ў некалькі перыядаў па наступных прадметах:

на аснове базавай і сярэдняй школы – па беларускай мове і літаратуры (дыктант) і матэматыцы (вусна).

Асобы, якія беларускую мову і літаратуру не вывучалі, маюць права здаваць экзамен па рускай мове (дыктант).

Без уступных экзаменаў прымаюцца асобы, якія закончылі базавую школу з адзнакай, сярэднюю школу з залатым ці сярэбраным медалём, прафесійна-тэхнічнае вучылішча на аснове базавай школы — з дыпломам з адзнакай.

На падставе вынікаў субяседавання, якое праводзіцца за 5 дзён да пачатку ўступных экзаменаў, на ўсе формы навучання па ўсіх спецыяльнасцях залічваюцца асобы, якія закончылі базавую і сярэднюю школу, прафесійна-тэхнічныя вучылішчы на аснове базавай школы з адзнакамі "4" і "5", прафесійна-тэхнічныя вучылішчы на базе сярэдняй адукацыі і маюць дыплом з адзнакай па абранай у тэхнікуме адпаведнай ці блізкай спецыяльнасці ў межах 60% плана прыёму. Пры наяўнасці конкурсу сярод іх праводзіцца адзін уступны экзамен — па матэматыцы (вусна).

Без уступных экзаменаў па меры падачы заяў залічваюцца пераможцы (І, ІІ, ІІІ месца) 1991 і 1992 гадоў міжнародных, рэспубліканскіх алімпіяд вучняў школ і навучэнцаў ПТВ па роднаснай абранай у тэхнікуме спецыяльнасці:

па-за конкурсам пры атрыманні станоўчых адзнак на ўступных экзаменах залічваюцца:

- дзеці-сіроты і дзеці, якія засталіся без апекі бацькоў;
- інваліды І і ІІ груп па спецыяльнасці "Бухгалтарскі ўлік, кантроль і аналіз гаспадарчай дзейнасці" пры наяўнасці дазволу ўрачэбна-працоўнай экспертнай камісіі;
- звольненыя ў запас ваеннаслужачыя, што маюць пасведчанне ваенкамата аб праве на льготы пры залічэнні, рэкамендацыі воінскіх часцей;
- асобы, якія маюць на гэта льготы ў адпаведнасці з Законам Рэспублікі Беларусь "Аб сацыяльнай абароне грамадзян, пацярпеўшых ад катастрофы на Чарнобыльскай АЭС".

Права на залічэнне маюць асобы, якія паспяхова вытрымалі экзамены і прайшлі па конкурсу.

Пры аднолькавай агульнай колькасці балаў пераважным правам залічэння на навучанне без адрыву ад вытворчасці маюць асобы з большым стажам практычнай работы па профілю абранай спецыяльнасці.

У сувязі з стварэннем вучэбна-навуковага аб'яднання "Бабруйскі аўтатранспартны тэхнікум – Беларуская дзяржаўная політэхнічная акадэмія" тэхнікуму дазваляецца:

1. Выдаваць па рэкамендацыі педагагічнага савета тэхнікума пасля заканчэння 1 курса атэстат аб сярэдняй адукацыі для паступлення на аўтатрактарны факультэт БДПА навучэнцам, якія на "добра" і "выдатна" авалодалі прадметамі агульнаадукацыйнага цыкла і праявілі схільнасць да спецыяльнасцей ВНУ.
2. Накіроўваць на вучобу на аўтатрактарны факультэт БДПА па дзённай і завочнай формах навучання са скарочаным тэрмінам навучання на падставе вынікаў субяседавання навучэнцаў тэхнікума, якія праявілі схільнасць да спецыяльнасцей ВНУ і атрымалі дыплом з азнакай або закончылі тэхнікум на "выдатна" і "добра" і маюць рэкамендацыі педагагічнага савета і Дзяржаўнай кваліфікацыйнай камісіі пасля абароны дыпломнага праекта.

Пасля заканчэння 3-га курса дзённага аддзялення (апрача спецыяльнасці "Бухгалтарскі ўлік, кантроль і аналіз гаспадарчай дзейнасці") усім навучэнцам, якія здалі экзамен у Дзяржаўтаінспекцыі, выдаецца пасведчанне вадзіцеля аўтамабіля катэгорыі "В" і "С" і прысвойваецца кваліфікацыя слесара па тэхнічнаму абслугоўванню і рамонту аўтамабіляў і рухавікоў пры навучанні па данай спецыяльнасці.

Стыпендыя ў размеры 245-305 рублёў у месяц назначаецца навучэнцам, якія паспяваюць і актыўна ўдзельнічаюць у грамадскім жыцці.

Іншагароднія навучэнцы, якія маюць патрэбу, забяспечваюцца інтэрнатам.

У інтэрнаце і вучэбным корпусе працуюць буфеты.

Дакументы накіроўваць на адрас: 213819 Магілёўская вобласць, г. Бабруйск, вул. Інтэрнацыянальная, 48 аўтатранспартны тэхнікум.

*Тэлефоны для даведак: 7-60-63, 7-45-44.*

ДЫРЭКЦЫЯ.



# Беларускі тэхналагічны інстытут

## аб'яўляе прыём студэнтаў

на дзённае (Д) і завочнае (З) навучанне па спецыяльнасцях

1. Лясная і садова-паркавая гаспадарка (Д;З);
2. Лесаінжынерная справа (Д);
3. Тэхналогія дрэваапрацоўкі (Д;З);
4. Машыны і абсталяванне ляснога комплексу (Д;З);
5. Тэхналогія пераапрацоўкі пластычных масаў і эластамераў (Д;З);
6. Хіміка-механічная тэхналогія драўніны і драўляных матэрыялаў (Д);
7. Біятэхналогія (Д);
8. Хімічная тэхналогія арганічных рэчываў (Д);
9. Хімічная тэхналогія неарганічных рэчываў (Д);
10. Тэхналогія электрахімічных вытворчасцей (Д);
11. Хімічная тэхналогія тугаплаўкіх неметалічных і сілікатных матэрыялаў (Д;З);
12. Хімічная тэхналогія матэрыялаў і вырабаў электроннай тэхнікі (Д);
13. Ахова навакольнага асяроддзя і рацыянальнае выкарыстанне прыродных рэсурсаў (Д);
14. Машыны і апараты хімічных вытворчасцей і прадпрыемстваў будаўнічых матэрыялаў (Д;З);
15. Аўтаматызацыя тэхналагічных працэсаў і вытворчасцей (Д);
16. Канструяванне і вытворчасць вырабаў з кампазіцыйных матэрыялаў (Д).

Уступныя экзамены: матэматыка (пісьмова) і беларуская літаратура (вусна, па сістэме "залічана", "не залічана"). Акрамя таго на спец. 1, 5-13 — хімія (вусна), на спец. 2-4, 14-16 — фізіка (вусна); на спец. "Садова-паркавае будаўніцтва"— малюнак. Пры адсутнасці ў атэстаце адзнакі па беларускай мове і літаратуры — дыктант па рускай мове. Медалісты, выдатнікі ССНУ і ПТВ на базе няпоўнай СШ залічваюцца без экзаменаў па выніках субяседавання. Ільготы прадастаўлены таксама выдатнікам другіх ПТВ і абітурыентам мужчынскага полу, якія паступаюць на асобныя спецыяльнасці.

*Тэлефон для даведак: 27-63-75.*

*Адрас інстытута: 220630, г. Мінск, вул. Свярдлова, 13-а.*

- Мяняю дом у Віцебскай вобласці (паміж Віцебскам і Оршай) на а/м ВАЗ. Прадаю спальню "Мара" альбо мяняю, тэлефоны Мінску: 46-16-88; 60-25-07, 66-00-33.
- Здыму кватэру ў Мінску. Тэл. 51-55-32, 51-32-88.

Дзяжурны рэдактар А. ПАЛЫНСКІ.

Мастацкае афармленне нумара В. ДУБОВІКА.

ЧЫРВОНАЯ Змена

Заснавальнік: ЦК ЛКСМБ
Выдавец: газетна-выдавецкая фірма "Белая Русь"
Газета ўзнагароджана ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга.
АДРАС рэдакцыі: 220041, г.Мінск, праспект Скарыны, 77.
ТЭЛЕФОНЫ: 32-13-54, 32-50-01.
Газета набрана і звярстана ў наборна-выдавецкім бюро газетна-выдавецкай фірмы "Белая Русь".
Друкарня выдавецтва "Беларускі Дом друку", г. Мінск.
Індэкс 63906. Тыраж 17 000.

Галоўны рэдактар Уладзімір БЕЛЬСКІ.



Зак. № 18.

П 1 2 3 4 5 6 7 9